4 снежня 2015 | № 46 (462)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Мінск. Гады студэнцкія
стар. 15









# Як зруйнаваць звышдзяржаву?

## У тое, што Расія — звышдзяржава, не вераць нават імперскія прапагандысты



Сяргей ПУЛЬША

Сімптаматычным у гэтым плане стаў артыкул Аляксея Арцаха на сайце інфармацыйна-аналітычнага анлайн-выдання «Сегодня». Спадар Арцах вымушаны быў прызнаць, што ягоная краіна ператварылася ў сусветнага ізгоя, якому патрэбныя хаўруснікі.

Калі хаўруснікаў няма, Арцах прапануе іх стварыць у «добраахвотна-прымусовым» парадку, скарыстаўшы АДКБ. Маўляў, «штогод мы праводзім маштабныя вучэнні з прыцягненнем тысяч вайскоўцаў і сотняў адзінак баявой тэхнікі, здзяйсняем шматкіламетровыя маршы ў пустынях, дэсантуемся на крайняй поўначы... Дык чаму ж на нашай авіябазе ў Хмейміме дагэтуль не кватаруе пара звёнаў знішчальнікаў беларускіх ВПС з нашай сумеснай базы ў Баранавічах? Ці не час Лукашэнку не на словах, а на справе паказаць брацкую любоў двух славянскіх народаў?» — пытаецца расійскі журналіст.

Адпраўкі войскаў у Сірыю Арцах патрабуе ад Казахстана, Арменіі, і нават ад Кыргызстана! Спасылаючыся пры гэтым на артыкул 8 Статута АДКБ, дзе кажацца пра тое, што дзяржавы — сябры блока «каардынуюць і аб'ядноўваюць свае намаганні ў барацьбе з міжнародным тэрарызмам і экстрэмізмам».

Цікавая думка, праўда? АДКБ павінна змагацца з тэрарызмам і экстрэмізмам па-за сваімі межамі. Як казаў у савецкія часы адзін палітрук, «ЗША ўмешваюцца ва ўнутраныя справы СССР па ўсім свеце».

Эпісталярны твор Арцаха нагадаў мне адзін анекдот, калі журналіст тэлефануе эксперту: «Гэта такі-та, эксперт у галіне барацьбы з тэрарызмам? — Так. — На вашу думку, якія наступствы будуць з-за тэракту ў Парыжы? — Я не магу зараз адказаць, у мяне кантрольная па алгебры». Выглядае на тое, што «кантрольная па алгебры» і ў самога Арцаха. Як можна сур'ёзна ставіцца да тэксту аўтара, які піша «наперекор» паасобку? Так і было напісана ў першапачатковым варыянце тэксту: «на перекор».

Невядома, дзе Арцах знайшоў «нашу сумесную базу ў Баранавічах». Пакуль што (дзякуй Богу) ніякай сумеснай авіябазы ў нас не існуе. Прылятала тут на дзяжурства звяно расійскіх знішчальнікаў, але звяно — гэта ўсяго чатыры самалёты.

А вось сярод вайскоўцаў у выніку гэтага «экспертнага меркавання» могуць быць непрыемнасці, і нават «чысткі». Бо Арцах спасылаецца на некаторых неназваных «асобных старшых афіцэраў» нашых Узброеных Сілаў, якія, нібыта, «лічаць, што войска застаялася ў казармах, і аказанне брацкай дапамогі Расіі ў барацьбе з сусветным тэрарызмам пайшло б яму толькі на карысць». На месцы Аляксандра Рыгоравіча я б задумаўся: хто гэта там такі дзёрзкі? Хто ідзе супраць Канстытуцыі (а значыць, і супраць яе гаранта), якая забараняе адпраўку беларускіх вайскоўцаў на вайну за мяжу?

Варта зазначыць, што дамова АДКБ тычыцца толькі тых краінаў, якія падпісалі гэтую дамову, на чым расійскі прапагандыст увагі, зразумела, не акцэнтуе. Для таго, каб яе задзейнічаць, трэба, каб была тэрарыстычная небяспека для дзяржаў — сябраў АДКБ. Менавіта сябраў, якія павінны звярнуцца па гэтую дапамогу. І нельга сказаць, што гэта не працуе.

### Ці патрэбна нам сяброўства ў АДКБ?

Узгадаем, напрыклад, балючую тэму — тэракт у мінскім метро 11.04.2011. У адпаведнасці з усімі дамоўленасцямі ўжо 12 красавіка з Масквы ў Мінск была накіраваная група следчых і крыміналістаў цэнтральнага апарату Следчага камітэта Расіі, каб дапамагчы нашым следчым у іх працы. Бо нашы, у адрозненне ад расійскіх, з такімі выпадкамі не сутыкаліся. А тыя следчыя, якія завіталі да нас, якраз і спецыялізаваліся на расследаванні крымінальных справаў па злачынствах тэрарыстычнай скіраванасці.

Але дзе Мінск, а дзе Сірыя? І хіба Сірыя далучылася да АДКБ? Вось калі яна туды ўступіць, то, можа быць, і ўзнікнуць падставы для аказання ёй дапамогі гэтым блокам. Але... Наўрад ці хто з сябраў АДКБ, апроч Расіі, пагодзіцца на такога «хаўрусьнічка». Так што ніякіх падставаў для разгортвання АДКБ у бок Сірыі пакуль што няма.

Падобныя артыкулы неадназова ўзнікаюць у расійскай прэсе. Гэта пачалося нават не з часоў украінскага канфлікту, а з расійска-грузінскай вайны 2008 года. Варта Расіі кудысьці ўляпацца, адразу ж пачынаецца енк: «А дзе нашы хаўруснікі? Чаму замест нас не ваююць беларусы?».

І што паказальна: у той час, як Пуцін намагаецца скручыць з Расіі звышдзяржаву, аналітыкі, падобныя да Арцаха, пераконваюць: ніякая Расія не звышдзяржава. Без хаўруснікаў яна — ніхто, і зваць яе ніяк. Яна не здолее разабрацца са сваімі авантурамі без беларусаў, армян і нават кіргізаў. А калі так, то можа, прыйшоў час сцішыць імперскія амбіцыі?

А для Беларусі гэта яшчэ адна нагода падумаць, ці патрэбнае ёй сяброўства ў АДКБ.



# СМІ: Вынікі 2015 года

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» пачынае падводзіць вынікі года. Чым запомніцца нам з вамі 2015-ы?**

Днямі кіраўнік Еўрапейскай федэрацыі журналістаў Могенс Бліхер Б'ерэгард даслаў Аляксандру Лукашэнку ліст, у якім выказаў «глыбокае задавальненне» спыненнем практыкі штрафавання журналістаў-фрылансераў.

Сапраўды, уся першая палова 2015 года вызначалася беспрэцэдэнтным ціскам на нашых калег, што супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без «афармлення стасункаў». Цягам года судовыя рашэнні за працу без акрэдытацыі выносіліся журналістам акрэдытацыі выносіліся журналістам ажно 28 разоў. Часам судовы «канвеер» выдаваў па 78 рашэнняў за месяц. Ніводнага з іх абскардзіць не ўдалося.

Сітуацыя змянілася пасля 4 жніўня. Падчас інтэрв'ю з Аляксандрам Лукашэнкам набалелае для журналістаў пытанне задаў журналіст Радыё «Свабода» Валер Каліноўскі. У адказ на гэта Лукашэнка заявіў, што не лічыць забароны для журналістаў сваім прынцыпам і паабяцаў разабрацца ў сітуацыі. Пасля гэтага ніводная новая справа па артыкуле 22.9 супраць журналістаў не была заведзена.

Ці надоўга выправілася сітуацыя? Што сёння думаюць пра гэта Валер Каліноўскі, самі фрылансеры і кіраўніцтва ГА «БАЖ»?

— Я спадзяваюся, што маё пытанне неяк паўплывае на сітуацыю з калегамі-фрылансерамі. І я вельмі задаволены, што справа займела вынік. Безумоўна, ніхто не застрахаваны ад таго, што сітуацыя можа паўтарыцца. Але на момант, калі ў краіне пануе нейкая палітычная адліга, мы атрымалі больш спрыяльныя ўмовы, — лічыць Валер Каліноўскі. — Думаю, прысуды канкрэтным журналістам з Лукашэнкам не ўзгадняюць, але пра тое, якая сістэма існуе ў краіне, ён, безумоўна, ведаў. Проста ў момант агрэсіўных паводзін суседзяў з Усходу Лукашэнка вымушаны выбудоўваць пэўную палітыку з суседзямі з Захаду. І змена атмасферы ў дачыненні да журналістаў — частка гэтай палітыкі. Нават сам факт інтэрв'ю незалежным СМІ — яе частка.

«За восем гадоў працы ў незалежнай журналістыцы я ўжо прызвычаілася быць нападатове. Спачатку нам бясконца давалі папяровы фрылансеры, потым пачалі штрафаваць. Зараз быццам бы адліга, але ўвесь час чакаеш удару ў спіну. Жывеш з чаканнем, што цябе ўсё роўна не пакінуць у спакоі, што табе будуць перашкаджаць. Гэта не такія моцныя перашкоды, каб сысці з прафесіі, але яны насамрэч напружваюць заўсёды», — гаворыць сябра ГА «БАЖ» Ларыса Шчыракова, сёлета двойчы аштрафаваная за працу без акрэдытацыі на замежнае СМІ.

У Беларусі не адбылося аніякіх зменаў у заканадаўстве альбо практыцы яго прымянення, якія маглі б засцерагчы ад паўтарэння кампаніі ціску.

«У нас на сцяне ў офісе вісяць лічбы датычна затрыманняў журналістаў і прыцягнення іх да адміністрацыйнай адказнасці. У мінулым годзе, напрыклад, было 29 затрыманняў і 10 адміністрацыйных спраў, сёлета — 13 затрыманняў і 28 адміністрацыйных спраў. Мы бачым, што фігуруюць амаль тыя ж лічбы, толькі змяніліся санкцыі... Так, новых спраў пасля 4 жніўня не заводзілі, але ні на якім заканадаўчым узроўні гэта не зафіксавана і няма ніякіх гарантый, што сітуацыя не паўторыцца. Гэта можа здарыцца ў любы момант, як толькі ўлады гэтага захочуць», — падсумоўвае старшыня ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец.

**Паводле прэс-службы ГА «БАЖ»**

***P.S.** Ад сябе дададзім, што напрыканцы лістапада газета «Новы час» атрымала чарговую адмову ў распаўсюдзе праз гандлёвую сетку РУП «Белсаюздрук». Адмовілі нам і ва ўключэнні ў падпісны каталог РУП «Белпошта».*

# Андрэя Гайдукова аштрафавалі

**У Наваполацку 30 лістапада адбыўся суд над актывістам аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Андрэем Гайдуковым за пікет памяці зніклых палітыкаў 16 лістапада.**

Справу разглядала суддзя Алёна Верташонак. Сведкамі былі прадстаўнік наваполацкага гарвыканкаму Уладзімір Бяляеў і міліцыянт Аляксандр Барэткін.

Суд пастанавіў прызнаць Андрэя Гайдукова вінаватым на падставе ч. 3 арт. 23.34 КаАП і падвергнуць яго штрафу ў памеры 45 базавых велічынь (8,1 мільёна рублёў).

Мясцовыя дэмакратычныя актывісты прыйшлі падтрымаць Андрэя. Актывіст аргкамітэту БХД Яўген Шымчонак прыйшоў з плакатам: «Андрэй Гайдукоў нічога не парушаў. За што яго судзіць?»

Сам Гайдукоў збіраецца абскардзіць рашэнне, сваю віну не прызнае. «Усё было ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, я нічога не парушыў. Суд быў прадузятым, прызнанне вінаватым ды такі вялікі штраф нічым не матываваныя», — адзначыў Андрэй.

**bchd.info**

# Рэктар БДУ да студэнтаў не выйшаў

**Марш студэнтаў — акцыя пратэсту супраць увядзення аплаты за пераздачу іспытаў і залікаў — сабрала ў Мінску больш за сотню чалавек.**

За пару гадзінаў да акцыі сайт БДУ змясціў абвестку, што сустрэча рэктара БДУ са студэнтамі адмяняецца: «У сувязі з заклікамі да супрацьпраўных дзеянняў і інфармацыяй пра імаверныя правакацыі, у мэтах гарантавання бяспекі студэнтаў БДУ сустрэча рэктара БДУ акадэміка Сяргея Абламейкі са студэнтамі пераносіцца», — гаварылася ў паведамленні.

У Міхайлаўскім скверы Мінска (каля чыгуначнага вакзала) сабралася больш за сотню студэнтаў. Яшчэ больш было «асобаў у цывільным», некаторыя з навушнікамі.

Студэнты прайшліся шэсцем ад новага будынка Факультэта міжнародных адносін да цэнтральнага корпуса БДУ — абодва ўваходы аказаліся заблакаванымі. На дзвярах у галоўны корпус БДУ з боку плошчы Незалежнасці вісела паперка «Рамонт», але ў будынак з лёгкасцю траплялі «людзі ў цывільным» і міліцыя.

Каля галоўнага ўваходу студэнты патрабавалі выйсці рэктара, але, вядома, марна. Дыван, на які выклікалі рэктара, застаўся ляжаць перад зачыненым уваходам у галоўны корпус БДУ.

Напачатку трэцяй гадзіны студэнты паціху пачалі разыходзіцца. Надзеі на сустрэчу з рэктарам не апраўдаліся, а вузел праблемы завязаўся яшчэ тужэй.

**Паводле незалежнай прэсы**

# Прызнаць Андрэя Бандарэнку палітвязнем

Сяргей ПУЛЬША

**Шэраг грамадскіх актывістаў просяць міжнародныя арганізацыі прызнаць заснавальнікаў арганізацыі «Платформ Інавэйшн» вязнямі сумлення.**

Як паведаміў НЧ былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, адпаведны зварот накіроўваецца ў расійскі цэнтр арганізацыі «Міжнародная амністыя», Сусветную арганізацыю супраць катаванняў, Вярхоўнаму камісару ААН па правах чалавека і ў прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі. У дакуменце адзначаецца, што крымінальныя справы супраць Бандарэнкі і Жамчужнага былі сфабрыкаваныя для спынення іх актыўнай дзейнасці і ліквідацыі створанай імі арганізацыі.

«Мне давялося наведаць шэраг судовых пасяджэнняў па справе Андрэя Бандарэнкі, якія доўжыліся з 29 ліпеня па 12 жніўні 2014 года, пазней — па ягонай просьбе, — вывучыць касацыйную скаргу, а потым — уступіць з ім у пастаянную перапіску. Гэта дазволіла мне паглыбіцца не толькі ў юрыдычныя нюансы яго справы, але і ў фактычныя акалічнасці. Я пераканаўся, што крымінальная справа супраць яго фальсіфікаваная ад пачатку і да канца: адна правакацыя на іншай, «падстаўныя» сведкі і пацярпелыя», — кажа Пастухоў.

Адпаведна, на ягоную думку, Бандарэнку ізалявалі, каб спыніць ягоную праваабарончую дзейнасць. Суд жа над Міхаілам Жамчужным, які супрацоўнічаў з Андрэем Бандарэнкам і пагадзіўся стаць заснавальнікам «Платформ Інавэйшн», ад пачатку зрабілі закрытым, каб ніхто не здагадаўся, што вынайшаў Жамчужны, для чаго і навошта спатрэбілася даваць хабар міліцыянту, калі да гэтага ў абвінавачанага была судзімасць за эканамічнае злачынства. «Улічваючы, што Андрэя Бандарэнку і Міхаіла Жамчужнага аб'ядноўвае адна агульная справа — праваабарончая дзейнасць у рамках «Платформ Інавэйшн», я ўпэўнена заяўляю, што яны сталі ахвярамі самавольства з боку органаў расследавання і суда і асуджаныя па палітычных матывах. Значыць, яны павінны быць прызнаныя палітвязнямі і неадкладна вызваленыя ад пакарання і рэабілітаваныя», — заяўляе Пастухоў.

Заяву падпісалі больш за 30 чалавек — палітыкі, грамадскія дзеячы, журналісты і былыя палітвязні.

# ІП рыхтуюцца да самаабароны

Юрась ДУБІНА

**У ІП застаўся месяц для працы: улады патрабуюць ад тых, хто не мае накладных і сертыфікатаў, ліквідаваць астаткі тавараў і вывезці іх з гандлёвых цэнтраў і выставак.**

А тым часам фіскальныя органы канфіскуюць буйныя партыі тавараў у прадпрымальнікаў за адсутнасць суправаджальных дакументаў. Таму лідары прадпрымальніцкага руху заклікалі выпрацаваць план кансалідацыі ІП і меры па самаабароне дробнага бізнесу.

Актывісты прадпрымальніцкага руху збяруцца 7 снежня ў Мінску, каб выпрацаваць агульную стратэгію дзеянняў пасля 1 студзеня 2016 года, паведамілі на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік старшыні Руху салідарнасці «Разам» Алесь Макаеў і прадпрымальнік Міхась Латышаў з Гомеля.

Паводле іх словаў, пасля 1 студзеня 80% прадпрымальнікаў па ўсёй Беларусі сыходзяць з гандлёвых цэнтраў і выставак. «Пакуль канфіскацыя не набыла масавы характар, але ідзе. Для кожнай гандлёвай кропкі, для кожнага прадпрымальніка гэта трагедыя, бо яны пазбаўляюцца сродкаў да існавання», — адзначае Алесь Макаеў.

Актывіст зазначыў, што па рэгіёнах прадпрымальнікі настроены па-рознаму. Але пры далейшым пагаршэнні ўмоў працы мінскія прадпрымальнікі гатовыя выходзіць на вуліцу, каб абараняць свае правы.

Лідары прадпрымальніцкага руху звярнулі ўвагу на тры знакавыя справы, калі дзяржава душыць прыватны бізнес. Гаворка ідзе пра стварэнне невыносных умоў для прадпрымальніцкай дзейнасці на кірмашы «Давыдаўскім» Савецкага раёна Гомеля ды беспадстаўны перасьлед Міколы Аўтуховіча з Ваўкавыска і Юрыя Ляшэнкі са Светлагорска.

Прадпрымальнік Міхась Латышаў адзначыў, што сёння немагчыма працаваць ІП на кірмашы «Давыдаўскі» праз неабгрунтавана завышаныя тарыфы арэнднай платы і камунальных плацяжоў. Усе звароты да адміністрацыі рынка, улада ў не толькі не прынеслі выніку, але паказалі, што ўлады не пойдуць на кампраміс.

Алесь Макаеў казаў пра лідараў прадпрымальнікаў: інваліда-калясачніка Юрыя Ляшэнку са Светлагорска, якога за ўдзел у акцыях па ўшанаванні памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 29 кастрычніка ў Мінску пазбаўляюць права на перавозкі мясцовыя чыноўнікі, і ганаровага старшыню Руха салідарнасці «Разам» Мікалая Аўтуховіча, на якога ажыццяўляюць ціск праз транспартную інспекцыю Ваўкавыска.

Паводле ўказа № 222, 1 сакавіка 2015 года мінуў тэрмін, калі ІП маглі рэалізаваць рэшткі прадукцыі легпрама, увезеныя з краін Мытнага саюза без дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё і паступленне гэтых тавараў. Прадпрымальнікі неаднаразова спрабавалі адмяніць гэтую норму, бо з яе ўядзеннем проста не здолеюць працаваць.

Пасля хвалі забастовак ІП, якія прайшлі ў сакавіку па ўсёй Беларусі, тэрмін рэалізацыі тавараў без дакументаў працягнулі да 1 студзеня 2016 года. Аднак ІП працягваюць заяўляць, што не змогуць працаваць у новых умовах, паколькі іх пастаўшчыкі, пераважна з Расіі, альбо адмаўляюцца выдаваць дакументы на тавары, якія могуць пацвердзіць паходжанне прадукцыі, альбо выдаюць фальшывыя даведкі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



Фота www.gorod.afisha.ru

# Зноў Кландайк?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Расія сварыцца са сваімі суседзямі так, што Беларусь атрымлівае выгоды. Ну, прынамсі, мае шанец атрымаць. Калі з розумам скарыстае сітуацыю, канешне.**

Калі РФ увяла эмбарга на еўрапейскія прадукты, некаторыя нашы чыноўнікі ахрысцілі гэта «харчовым Кландайкам». Маўляў, мы завалім Расію сваёй прадукцыяй замест еўрапейскай. «Заваліць» не атрымалася, але некаторыя прадпрыемствы няблага падняліся на гэтым. Асабліва рыбаапрацоўчыя, якія паставілі ў Маскву беларускі ласось, мідыі і крэветкі.

Але сельская гаспадарка апынулася ў мінусе. Часткова з-за падзення расійскага рубля, а часткова — з-за сваёй традыцыйнай непаваротлівасці. Але зараз у нас ёсць усе шанцы выправіць сітуацыю. Таму што Расія зноў пасварылася — гэтым разам з Турцыяй і Украінай.

Яшчэ два тыдні таму Расія выказала поўную незадаволенасць тым, што Украіна з пачатку наступнага года ўсёж пачне рэалізацыю дамовы пра зону свабоднага гандлю з Еўропай. А таму РФ з таго ж моманту — пачатку года, — уводзіць эмбарга ў дачыненні і да ўкраінскіх тавараў. На гэтым тыдні прэм'ер-міністр РФ Дзмітрый Мядзведзеў падпісаў пастанову ўрада пра санкцыі супраць Турцыі: з 1 студзеня 2016 года будзе забаронены ўвоз мяса і гародніны, а з 1 снежня ўжо забаронены чартарныя перавозкі паміж краінамі. Згодна з дакументам, да ўвозу з Турцыі з 1 студзеня забароненыя мяса курыцы і індычкі, таматы, лук, капуста, агуркі, апельсіны і мандарыны, вінаград, яблыкі, грушы, абрыкосы, персікі, слівы, суніцы і клубніцы, а таксама соль.

Беларусам варта паціраць рукі і лічыць. Апроч апельсінаў, мандарынаў, вінаграду, і, можа быць, персікаў, усё астатняе расце ў нас. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на таматы: Расія застанецца не толькі без турэцкіх, але і без херсонскіх памідораў і кетчупаў. Наўрад ці адзін Краснадарскі край задаволіць патрэбу ў гэтай садавіне ад Калінінграда да Уладзівастока. Птушкаводства ў нас таксама даволі моцнае. Галоўнае, каб гэтая птушка, па-першае, адпавядала расійскім санітарным нормам, а па-другое, каштавала б не даражэй за турэцкую.

Мы цалкам можам «дыверсіфікаваць» нашы пастаўкі. Скажам, мы заменім нашу птушку турэцкай (кошты на якую ўпадуць, дзякуючы расійскаму эмбарга), а сваіх крылатых можам гнаць на Расію, дзе кошты, з-за недахопу гэтай прадукцыі, адпаведна, узрастуць.

Міністэрству сельскай гаспадаркі варта ўжо зараз задумацца і над змяненнем структуры вытворчасці ў будучым годзе. Яны і так чухаюць патыліцу: з-за глабальнага пацяплення ў нас змяняецца традыцыйная сістэма гаспадаркі. Усё часцей на рынках з'яўляюцца гомельскія і брэсцкія абрыкосы, а Лукашэнка вырошчвае кавуны нават у Мінску. Расійскія санкцыі прымусяць расчухваца хутчэй, аддаючы перавагу таматам замест бульбы.

Ну, і, канешне, соль. Традыцыйнымі нашымі канкурэнтамі на гэтым рынку былі ўкраінцы, і, аказваецца, туркі. Усе яны зараз пад санкцыямі. «Мазырсоль» можа таксама рыхтаваць бізнес-планы на будучы год.

А вось хто атрымае прыбытак зараз, не чакаючы садавінна-гародніннага сезона, дык гэта тыя нашы, якія корміцца з турызму. З-за небяспекі тэрактаў у Егіпце і санкцыяў да Турцыі ў расіянаў засталося дзве сваіх пляцоўкі для адпачынку: Сочы і анексаваны Крым. Сочы ўсіх не змесціць, а да Крыма яшчэ паспрабуй даехаць праз забітую машынамі Тузлу. Дый у святле апошніх падзеяў (дакладней было б сказаць, канешне, «у цемры апошніх падзеяў») у Крым могуць ездзіць толькі аматары рамантычных вячэраў пры свечках.

Застаецца звыклы беларускі накірунак. Тым больш, наша краіна па аграэкатурызму, як высветлілася, займае другое месца пасля Італіі. Канешне, у Расіі ёсць экстрэмалы, якія паедуць на калінінградскую Балтыку альбо на Белае мора. Але ў нас адпачынак усё ж больш камфортны. Таму беларускаму Дзеду Марозу трэба рыхтавацца да незвычайнага сезону, пакуючы падарункі для маскоўскіх дзяцей.

Аднак не трэба торкацца на старыя граблі, спрабуючы па старой завядзёнцы выдаць турэцкую альбо ўкраінскую прадукцыю за сваю. Кантрабанда харчоў — пройдзены этап, Расельгаснагляд вывучыў у гэтым амаль усе нашы схемы і хітрыкі. З 7 снежня гэтае ведамства ўвядзе спецыяльны фітасанітарны рэжым на ўвоз сельгаспрадуктаў праз Беларусь. Дадзеныя меры неабходныя для недапушчэння ўвозу ў Расію прадукцыі невядомага паходжання, у тым ліку прадукцыі, на якую распаўсюджваецца дзеянне эмбарга ў дачыненні да краін ЕС, цытуе ТАСС прэс-рэліз расійскіх фітасанітараў. «Усе, што выклікае ў нас сумненне, не будзе дапушчанае на тэрыторыю Расіі», — сказала прэс-сакратар Расельгаснагляда Юлія Мелана.

Таму нам трэба прымаць новую канцэпцыю «імпартазамяшчэння». То бок польскі яблык, галандскі сыр, херсонскія і турэцкія таматы — welcome to Belarus. А ўся беларуская прадукцыя гэтага накірунку — go to Russia. Самае складанае ў гэтым працэсе — змяніць псіхалогію. Пазбавіцца комплексу «малодшага брата», ставіць расіянам свае ўмовы паставак і аплатаў. Не прадаваць прадукцыю танней сабекошту («бо яны ж нам браты»), заломваць цэны, працаваць па перадаплаце, не дапускаючы «вісякоў» па гэтай аплаце (невядома, калі і наколькі зноўку лясне расійскі рубель). А тое і весці каштарыс у паўнавартасных доларах і еўра, а не ў ненадзейным «драўляным».

А што? Навошта рускім зараз долары і еўра? У Егіпет і Турцыю яны не паляцяць, Балі і Мальдывы па кішэні не кожнаму. Прынамсі, не тым, хто прызвычаіўся адпачываць у забароненых зараз Турцыі і Егіпце. Таму хай яны разлічваюцца валютай з браткамі-беларусамі.

Канешне ж, расіяне будуць енчыць: «Як жа так? Што за рынкавыя адносіны паміж намі, славянамі? Мы адзін народ!». Не трэба ім казаць, што мы розныя народы, розныя краіны. Трэба проста паведаміць: «Хлопцы, у нас валютная выручка знізілася за 10 месяцаў гэтага года на $9 мільярдаў. А дзярждоўг за той жа тэрмін вырас на 51%. Таму дапамагайце як можаце. Купляйце беларускае!»

ФІГУРЫ ТЫДНЯ




## Рыгор Грык

**Дзякуючы баранавіцкаму актывісту, мы даведаліся, якой павінна быць форма адзення апазіцыянера.**

Нагадаем, што 24 верасня Рыгор Грык у знак пратэсту супраць нявыдачы рабочага спецадзення прыйшоў на працу ў турэмнай робе. Акцыя выклікала бурную рэакцыю з боку дырэктара крамы Вольгі Борыс, якая накінулася на работніка з кулакамі, за што пазней рашэннем суда была аштрафаваная на 10 базавых велічынь. У той жа дзень, 24 верасня, Рыгору Грыку ўручылі апавяшчэнне аб звальненні «за прагул».

Зараз Рыгор Грык абскарджвае сваё звальненне ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска. Ён патрабуе аднаўлення на працы і спагнання сярэдняга заробку за вымушаны прагул, бо ў той дзень, за «прагул» якога яго звольнілі, ён браў адгул па вусным пагадненні з дырэктаркай.

Але самае цікавае юрысты прафсаюза РЭП, якія абараняюць Грыка, пабачылі ў пастанове суддзі Петрыева, які караў Грыка за перфоманс. Вольна ці міжволі, імем Рэспублікі Беларусь ён вызначыў форму для апазіцыянераў. У матывіровачнай частцы ён напісаў, што ў краму выклікалі нарад міліцыі, бо «ў гандлёвай залі знаходзіўся іх грузчык у апазіцыйнай форме», і далей ідзе вызначэнне формы: «звычайная спецвопратка, падобная на форму вязняў канцэнтрацыйных лагераў, паласатая бела-чорная, як у вязняў Бухенвальда».

## Мікалай Статкевіч

**Былы палітвязень моцна раззлаваў сваім выступам на пасяджэнні Сацінтэрну ўлады Анголы.**



Усвой час Статкевіч узначальваў у Беларусі сацыял-дэмакратычную партыю, якая мела ў Сацінтэрне дарадчы голас. Статкевіча і запрасілі на пасяджэнне Сацінтэрну. Адмовіцца ён не мог, бо, як распавёў сам Статкевіч, «кіраўніцтва Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу шмат рабіла для майго вызвалення». «І рэзалюцыі прымалі, і генеральны сакратар Луіс Аяла, які сам пры Пінанчэ ў чылійскай турме сядзеў, у Беларусь прыязджаў у 2011 годзе. Мне казалі, што Луіс нават выходзіў на нашага Лукашэнку праз Ільхама Аліева. Таму калі Луіс патэлефанаваў і прапанаваў нам прыехаць, то я не мог адмовіцца», — расказаў палітык.

З інтэрнэту Мікалай Статкевіч даведаўся, што ў чэрвені ў Луандзе былі арыштаваныя 15 маладых людзей за тое, што чыталі кнігу пра негвалтоўны супраціў. У лістападзе мусіў пачацца суд над імі. Дэманстрацыя ў іх абарону была забароненая.

«Таму пасля слоў падзякі калегам за салідарнасць я павінен быў звярнуцца да ўладаў з просьбай аб вызваленні маладых людзей. Рэакцыя на мой выступ прадстаўнікоў улады была вельмі негатыўнай. А прадстаўнікі партый суседніх краін потым не раз падыходзілі і дзякавалі «за праўду», — сказаў Статкевіч.



## Віктар Ганчарэнка

**Былога трэнера БАТЭ працягвае насіць па клубах.**

Нядаўна Ганчарэнка сышоў з екацярынбургскага «Урала» — па чутках, з-за таго, што не пагадзіўся «зліць» гульню грозненскаму «Цераху». Зараз ён працуе ў трэнерскім штабе ЦСКА. Аднак цалкам магчыма, што зменіць і гэтую працу.

Як стала вядома газеце «Савецкі Спорт», казахстанскі «Кайрат» пачаў пошук новага галоўнага трэнера. У шорт-ліст «Кайрата», пасля доўгіх роздумаў і кансультацый, патрапілі расіянін Аляксандр Барадзюк і Віктар Ганчарэнка

Раней паведамлялася, што галоўны трэнер «Кайрата» Уладзімір Вайс пакінуў каманду па заканчэнні тэрміну кантракту.

Азбука паліталогіі

# З «трэцяга свету» — у «першы» і назад



Сяргей НІКАЛЮК

**Сёння вайна за прыродныя рэсурсы ідзе выключна ў галовах носьбітаў экстэнсіўнай культуры.**

Цывілізацыйны аналіз — мая слабасць. Зразумела, гаворка ідзе пра аналіз на ўзроўні «азбукавых ісцін». Аднак нават на ім адшукаць у Беларусі «таварышаў па розуме» не так лёгка. Зрэшты, жыццё працягвае падкідваць сюрпрызы. На гэты раз сюрпрыз чакаў у выглядзе артыкула доктара філасофскіх навук, прафесара Чэслава Кірвеля «Усходнеславянскі свет: куды ісці?» (часопіс «Беларуская думка», № 8, 2015).

На старонках НЧ я ўжо маю пэўны вопыт завочных дыскусій з асобамі з навуковымі ступенямі (доктар філасофіі Вячаслаў Оргіш, акадэмік Анатоль Рубінаў). Таму без лішніх словаў пераходжу да аналізу артыкула прафесара Кірвеля.

## Агульны здабытак

У сучасным свеце, лічыць Кірвель, выявіліся дзве тэндэнцыі: з аднаго боку — глабалізацыя, з другога — рэгіяналізацыя (фарміраванне новых цэнтраў развіцця і сілы, якія аб’ядноўваюць у сабе цэлую групу дзяржаў). Гуртавацца на рэгіянальным узроўні дзяржавы прымушае надзвычай жорсткая канкурэнцыя за рэсурсы.

Тут міжволі прыгадваеш «адзінага палітыка»: «Ідзе жорсткая барацьба не толькі за перадзел рэсурсаў, доступ да рэсурсаў, ідзе барацьба за перадзел свету».

Вось так уяўляюць свет у XXI стагоддзі людзі экстэнсіўнай культуры (ад лац. extensivus — той, што пашырацца). Магчымасць эканамічнага росту яны звязваюць выключна з уцягваннем у гаспадарчую дзейнасць дадатковых рэсурсаў. «Экстэнсіўная стратэгія, — падкрэслівае культуролаг Ігар Якавенка, — гістарычна першасная. Паводле свайго зыходнага імпульсу яна носіць біялагічны характар. Кожны від імкнецца ўцягнуць у біялагічны абарот (спажыць, з’есці, выкарыстаць) максімум прыродных рэсурсаў».

Выстаяць ва ўмовах вельмі жорсткай канкурэнцыі за рэсурсы, паводле цвёрдага перакання філосафа, Беларусь, Расія і Украіна змогуць толькі пры ўмове стварэння самадастатковага цэнтра развіцця і сілы. Толькі ў гэтым выпадку Расія зможа захаваць тэрытарыяльную цэласнасць і, адпаведна, — багацце сваіх нетраў.

Прывяду ключавую цытату артыкула: «І тут трэба зразумець самае галоўнае: нетры Заходняй і Усходняй Сібіры, у выпадку цеснага і раўнапраўнага саюза ўсходнеславянскіх народаў, стануць іх агульным стратэгічным рэсурсам». Для тых, хто з першага разу не зразумеў, філосаф паўтарае: «Гэта наш агульны здабытак. Наш агульны патэнцыял для далейшага стабільнага развіцця без рэсурснага голаду. У выпадку рэалізацыі такога сцэнару перад усходнеславянскімі краінамі адкрываецца перспектыва працяглага і ўстойлівага развіцця».

Зноў прыгадаем Ігара Якавенку: «У экстэнсіўна арыентаванай культуры прыродныя рэсурсы — перш за ўсё зямля, а таксама ўсё, што жыве на зямлі і нараджаецца з зямлі, — лічацца агульным здабыткам. Яны належаць Богу, цару, нашаму роду-племені. Асобны чалавек, сям’я, род устанаўліваюць з універсальным рэсурсам — зямлёй — адносіны карыстальніка».

Ахілесава пятка Расіі, мяркуе філосаф, — дэмаграфія. Без стратэгічнага эканамічнага, палітычнага і ваеннага саюза з астатнімі ўсходнеславянскімі краінамі яна наўрад ці зможа захаваць сваю тэрытарыяльную цэласнасць і эфектыўна асвойваць свае радовішчы сыравінных і энергетычных рэсурсаў. Расіі для гэтага проста не хопіць насельніцтва.

## За саюз без выключэнняў

Вось такая логіка. На побытавым узроўні яна зразумелая. Але прапаную з дапамогай мазжачку і верхніх аддзелаў спіннога мозгу падняцца да ўзроўню азбукавых паліталагічных ісцін.

У Расіі 50% дзяржаўнага бюджэту фарміруецца за кошт вуглевадародаў, а яшчэ 30% — за кошт імпартнага ПДВ, імпартных акцызаў і пошлін, якія, як нескладана здагадацца, галоўным чынам забяспечваюцца за кошт продажу ўсё тых жа вуглевадародаў. У выніку атрымліваецца каля 80%.

Паводле разлікаў эканаміста Андрэя Мовчана, гэта багацце фармуе каля 5% насельніцтва краіны! Да іх варта прыплюсаваць і ахоўнікаў, ролю якіх у рэсурсных эканоміках цяжка пераацаніць. У Расіі адзін ахоўнік прыпадае на 208 жыхароў, у Германіі — на 480, у Швецыі — на 750. Уражвае і статыстыка па «шчыльнасці» паліцэйскіх: у Расіі на 100 тысяч жыхароў прыпадае 975 паліцэйскіх, у Германіі — 300.

А за кошт якіх крыніц жыве астатняя (асноўная) маса насельніцтва Расіі-матухны? Адказ на гэтае пытанне відавочны: за кошт цэнтралізаванага пераразмеркавання дзяржавай прыроднай рэнты. Прыгажосць вертыкальнага прынцыпу жыцця ў чыстым выглядзе! На самым версе — нацыянальны лідар з завоблачным рэйтынгам, надзелены правам аднаасобна вырашаць, каму і колькі выдзяляць грошай.

У любой іншай дзяржаве, у бюджэце якой пераважае прыродная рэнта, назіраецца тое ж самае. Як тут ні прыгадаць Венесуэлу, сусветнага лідара па разведаных запасах нафты. Між іншым, Венесуэла — «гэта, вобразна кажучы, частка Беларусі, а Беларусь — гэта частка Венесуэлы». Спадзяюся, чытачы НЧ здагадаліся, хто аўтар такога глыбокага абагульнення?

З агульнага правіла выпадае Нарвегія, бюджэт якой на 40% фармуецца за кошт прыроднай рэнты. Тлумачэнне ляжыць на паверхні. У Нарвегіі дэмакратычныя інстытуты сфармаваліся задоўга да таго, як былі знойдзеныя нафта і газ.

Дабрабыт беларусаў таксама падсілкоўваецца расійскай прыроднай рэнтай. У «тлустыя» гады, паводле разлікаў дзяржаўных эканамістаў, яе ўклад у наш ВУП перавышаў 15%. Але халявы ніколі не бывае зашмат. Акрамя таго, за гады існавання Саюзнай дзяржавы беларускаму боку так і не ўдалося юрыдычна замацаваць сваё права на прысваенне расійскай прыроднай рэнты.

Гісторыя беларуска-расійскай інтэграцыі — гэта не ў апошнюю чаргу гісторыя нафтагазавых канфліктаў (войнаў). Не буду марнаваць газетную плошчу на падрабязнасці: кожны можа з імі азнаёміцца, пашукаўшы трошкі ў інтэрнэце.

Барацьба за «наш агульны здабытак» беларускім бокам вядзецца сёння пад лозунгам стварэння «раўнапраўнага саюза без з выключэнняў і абмежаванняў». Па зразумелых прычынах, Расія не спяшаецца з усталяваннем такога ўзроўню інтэграцыйнай блізкасці. А больш чым двухразовае падзенне коштаў на нафту ў 2015 годзе можа канчаткова пахаваць надзеі беларускага боку.




## Мільёны на фоне тысяч

Экстэнсіўная культура ўсімі сіламі адмаўляе рынкавую канкурэнцыю, бо ў канкурэнтнай барацьбе перамагае інтэнсіўны, здольны да аптымізацыі. Таму там, дзе філосаф бачыць надзвычай жорсткую канкурэнцыю за рэсурсы, у рэальнасці ідзе жорсткая канкурэнцыя за рынкі збыту. У тым ліку і за рынкі збыту рэсурсаў.

Пераадоленне гістарычнай інерцыі — зусім не простая задача. Не кожнаму доктару філасофіі яна па сілах. Цытую: «На Сібір сёння з адкрытай пажадлівасцю глядзяць і ЗША, і Японія, і Кітай, і многія іншыя краіны. Падкрэслім, што пры рэалізацыі такога сцэнару (сыход Украіны на Захад) мэта раздраблення ўсходнеславянскага свету, ператварэння яго ў каланіяльную або паўкаланіяльную перыферыю іншых цэнтраў сілы будзе дасягнутая. Менавіта над ажыццяўленнем гэтай задачы зараз вельмі напружана працуюць «сусветныя штабы».

Не ўпэўнены, што існуюць «сусветныя штабы», але ў тым, што свет дынамічна развіваецца, я не сумняваюся. Крыху эканамічнай статыстыкі: 459 тысяч супрацоўнікаў «Газпрама» ў 2014 годзе забяспечылі кампаніі чысты прыбытак у памеры $ 3,5 мільярда. Прыбытак «Apple» за той жа год склаў $ 39,5 мільярда. Яго забяспечылі 80 тысяч супрацоўнікаў.

А цяпер узброімся калькулятарам. Чысты прыбытак у разліку на аднаго супрацоўніка ў амерыканскага вытворцы кампутараў апынулася ў 65 разоў вышэй, чым у расійскай кампаніі, якая горда называе сябе «нацыянальным здабыткам».

Пасля такой параўнальнай статыстыкі самы час звярнуцца да часопіса «Форбс», які апублікаваў на днях справаздачу аб даходах кіраўнікоў найбуйнейшых дзяржкарпарацый Расіі: «Нягледзячы на тое, што прыбытак кампаніі ў рублёвым выражэнні знізілася ў 7 разоў, а ў доларавым — у 9 разоў, узнагароджанне старшыні праўлення «Газпрома» Аляксея Мілера вырасла з $ 25 мільёнаў да $ 27 мільёнаў, і ён заняў першы радок у рэйтынгу».

У расійскіх рублях па цяперашнім курсе атрымліваецца каля 5 мільёнаў на дзень. Апошняя лічба выдатна глядзіцца на фоне 33 тысяч, зробленых сярэднестатыстычным расіянінам за кастрычнік.

Зразумела, тэарэтык славянскага адзінства такую статыстыку не агучвае, што не перашкаджае яму з веданнем справы разважаць пра перспектыву нашых дзяцей і ўнукаў стаць дробнай разменнай манетай на сусветным рынку працы: «Рабства XXI стагоддзя — гэта рынак таннай працоўнай сілы; гэта тэрыторыя для размяшчэння шкодных вытворчасцяў і шкодных адходаў; гэта месца для скідвання няякасных тавараў; гэта «сыравінныя прыдаткі» для іншых краін і г.д. Але такога павароту падзей усходнеславянскія народы не павінны дапусціць ні пры якіх абставінах».

Між іншым, усе цяперашнія азіяцкія «тыгры» на пачатковых этапах індустрыялізацыі адваёўвалі свае месцы на міжнародных рынках за кошт таннай працоўнай сілы. Напрыклад, бацька сінгапурскага цуду Лі Куан Ю ў кнізе «Сінгапурская гісторыя: з «трэцяга свету» — у «першы», у якой ён, у прыватнасці, апісвае, з дапамогай якога аргументу яму ўдалося ўгаварыць нарвежскага бізнесмена арганізаваць вытворчасць кручкоў для лоўлі фарэлі: «...кітайцы маюць спрытныя пальцы. Гэта была даволі кваліфікаваная праца, бо пёры мусілі быць умела прыладжаныя да кручкоў».

За кошт размяшчэння такіх вытворчасцяў і рабіў Сінгапур свае першыя крокі з «трэцяга свету» ў «першы».

У спісе краін па ВУП на душу насельніцтва паводле парытэта пакупніцкай здольнасці ў 2014 годзе Сінгапур заняў трэцяе месца ($ 82 762), Расія — 49-е ($ 24 805), Беларусь — 64-е ($ 18 151), а Украіна — 105-е ($ 8 668).

Пакуль адны краіны ад вытворчасці рыбалоўных кручкоў пераходзілі да біятэхналогій, іншыя праядалі рэшткі савецкай індустрыяльнай спадчыны. Гісторыя апошніх дзесяцігоддзяў сведчыць, што рухацца можна не толькі з «трэцяга свету» ў «першы», але і ў адваротным кірунку.

**(працяг будзе)**


Фота www.belaruspartisan.org

**з 1 снежня выраслі расцэнкі для насельніцтва на прыродны і звадкаваны газ, тарыфы на электрычную і цеплавую энергію, кошты паслуг мабільнай сувязі і інтэрнэту**

# Лёгкае жыццё скончылася

Генадзь КЕСНЕР

**Дзяржаве вельмі патрэбныя грошы. Але, каб атрымаць крэдыты ад Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) і Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР), афіцыйнаму Мінску давядзецца ісці на такія захады, якія не выклічуць задавальнення ў шараговых грамадзян.**

Так, да прыкладу, тутэйшы ўрад плануе найбліжэйшым часам вярнуцца да абмеркавання тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. Пра гэта 1 снежня паведаміў віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, каментуючы вынікі нарады ў Аляксандра Лукашэнкі пра ход перамоваў па праграме пашырэння фінансавання з Міжнародным валютным фондам (інфармацыя БЕЛТА). «Кіраўнік дзяржавы на пачатку размовы сказаў, што не бачыць нейкіх супярэчнасцяў у самой праграме з тым, што мы планавалі для сябе. Іншая справа — хуткасць рэалізацыі тых ці іншых дзеянняў. Размова была вельмі не простай, але цікавай для ўсіх бакоў. Засталося яшчэ далікатнае пытанне — гэта жыллёва-камунальная гаспадарка, тарыфы. Найбліжэйшым часам мы вернемся да гэтай тэмы і выйдзем на нейкае канчатковае рашэнне», — сказаў Мацюшэўскі.

А тым часам зрухі ў аплаце паслугаў для абывацеляў ужо пачаліся. Як падняліся і кошты. Так, ад 1 снежня выраслі расцэнкі для насельніцтва на прыродны і звадкаваны газ, тарыфы на электрычную і цеплавую энергію. Напрыклад, тарыф на энергію для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння ўстаноўлены ў памеры 100 088 беларускіх рублёў за 1 гігакалорыю — падаражанне склала 3,8%.

Апроч таго, 1 снежня павысіліся кошты на большасць марак цыгарэт, у залежнасці ад маркі цэны выраслі на 200–5000 рублёў.

«Узрадаваў» беларусаў і «Белтэлекам», які павысіў цэны на частку тарыфных планаў byfly: на 5–10,3% выраслі кошты на тарыфныя планы «Дамасед», «Дамасед Класік», «Дамасед плюс» і «Дамасед старт». Павялічыў кошты на інтэрнэт-тарыфы правайдар «Дзелавая сетка»: залежна ад тарыфу, кошт вырастае на 10–25%, а большасць тарыфных планаў падаражала на 25%.

Не застаўся ўбаку і аператар мабільнай сувязі Velcom, як 1 снежня павысіў кошт сваіх паслуг. Так, абаненцкая плата на большасць тарыфных планаў павялічылася на 3–8 тысяч рублёў. Гэтага аператара на дзень апярэдзіў

**Пра абвешчаную кіраўніком Беларусі сацыяльную дзяржаву можна забыць, бо ад яе практычна нічога не засталося**

ягоны канкурэнт МТС, які 30 лістапада павысіў кошты на большасць тарыфных планаў.

Да таго ж, ёсць інфармацыя, што Адміністрацыя прэзідэнта разглядае пытанне аб уключэнні ў тарыфы на газ і электрычнасць падатку на дададзеную вартасць. Цяпер жа для насельніцтва дзейнічаюць пэўныя ільготы.

На думку эканаміста Льва Марголіна, пра абвешчаную афіцыйным беларускім лідарам сацыяльную дзяржаву ўжо можна забыць, бо ад яе практычна нічога не засталося.

«Сацыяльна арыентаванай можа быць толькі моцная эканоміка. У скандынаўскіх краінах сацыяльна арыентаваная эканоміка, бо там ёсць з чаго ажыццяўляць сацыяльную абарону насельніцтва. У нас гэтага няма. У далейшым будзе толькі горш. Невыпадкова нядаўна на гэтую тэму выказалася Антаніна Морава (сустаршыня ГА «Беларускі саюз жанчын — Г. К.), якая выступіла за скарачэнне адпачынку па доглядзе за дзецьмі. Прычым характэрна, што выказаўся не міністр, не прэм'ер ураду ці кіраўнік эканамічнага блока, але чалавек, які займае ледзь не ўсе грамадскія пасады, звязаныя з абаронай жанчын і дзіцяці, — звяртае ўвагу эксперт. — Я думаю, што мы будзем пастаянна сутыкацца са скарачэннем гэтай сацыяльнай функцыі дзяржавы. Бо дзяржава больш не ўстане ажыццяўляць гэтую функцыю».

Што да коштаў на паслугі ЖКГ, то яшчэ нядаўна кіраўнік дзяржавы патрабаваў ад чыноўнікаў патлумачыць, якім чынам фарміруюцца расцэнкі на камунальныя паслугі. Але хутка гэтая тэма знікла з адміністрацыйных даляглядаў.

«Гэтую тэму праглынуў, найперш, сам Лукашэнка. Да сёння яна — таямніца таямніцаў структураў, якія аказваюць камунальныя паслугі. Гэта і энерга-, вода- і газаабслугоўванне і гэтак далей. Ніхто не ведае, з чаго тут складаюцца кошты. Хаця мы б маглі многа цікавага даведацца, якія выдаткі сюды ўваходзяць, колькі там адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў, якая там штатная колькасць, што яшчэ туды ўваходзіць, — адзначае Леў Марголін. — У свой час была інфармацыя, што на балансе аблэнерга сядзяць ці то хакейныя, ці то футбольныя клубы. Безумоўна, туды ж уваходзяць даражэзныя рамонты і набыццё аўтатранспарту і шмат чаго іншага. Але, на жаль, гэта вельмі непразрыстыя лічбы, таму ніхто нічога канкрэтнага сказаць не можа».

За гэтую непразрыстасць, упэўнены эканаміст, улады будуць трымацца зубамі да апошняга, бо яны разумеюць, што калі народ даведаецца, з чаго складаецца сабекошт камунальных паслугаў, то яны пазбавяцца апошняга аргумента наконт іх павышэння.

«На вялікі жаль, і МВФ, патрабуючы большай кампенсацыі насельніцтвам коштаў гэтых паслугаў, не настойвае на большай празрыстасці і на стварэнні канкурэнтнага асяродку ў гэтых паслугах. А гэта сведчыць пра тое, што мы плацілі і будзем плаціць столькі, колькі пажадае наша ўлада», — рэзюмуе Леў Марголін.

# Пакараць вінаватых, ці За што збіваюць пенсіянераў

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Збіты пенсіянер другі год спрабуе пакараць крыўдзіцеляў. І толькі пры дапамозе праваабаронцаў яму ўдалося дамагчыся, каб справу пра збіццё пачалі разбіраць паводле крымінальнага, а не адміністрацыйнага кодэкса. Гэта першы паспяховы вынік шматмесячнага ліставання мужчыны з дзяржаўнымі інстанцыямі.**



Алег Волчак (у цэнтры) разам з пацярпелымі Валерыем Лобачам (злева) і Мікалаем Галаўнёвым

### Па-сваяцку і па-суседску

Звычайны дзень лета 2014 года, калі мінскі пенсіянер Валерый Лобач быў на сваім лецішчы ў Лагойскім раёне, скончыўся для мужчыны бойкай з уласным зяцем і добрым сябрам. Валерый Лобач апавядае, што ўсё пачалося з ранішняй спрэчкі з мужам старэйшай дачкі — канфлікт прывёў да таго, што ён папрасіў зяця пакінуць яго лецішча і з'ехаць, аднак той адмовіўся. Далей сямейная сварка перарасла ў сапраўдную драму — паводле Валерыя Лобача, ён вырашыў паехаць на сваім трактары да возера, каб адпачыць і прывесці думкі ў парадак. Аднак ягоны зяць і стары сябра, які мае лецішча па суседству, нечакана разам кінуліся на яго, гвалтоўна адабралі ключы ад машыны і збілі.

Тлумачэнняў такім падзеям Валерый Лобач знайсці не можа і лічыць, што віною можа быць нервовы зрыў. Але і даравацъ крыўдзіцелям тое, што яго, інваліда першай групы, кінулі на зямлю, прыціснулі нагамі і білі па твары, пенсіянер не збіраецца. Пасля той бойкі ў Валерыя застаўся сіняк пад вокам, моцна баліць плячо, увесь апошні год мужчына сябе блага адчувае. Дарэчы, з суседам Валерый Лобач быў у добрых стасунках больш за пяцьдзясят гадоў, а з зяцем чатырнаццаць гадоў пражылі у адной кватэры ў Мінску.

У той жа дзень Валерый Лобач з'ехаў у Маскву — другая дачка прыехала па яго на машыне і завезла да сябе, каб бацька мог ачуняць пасля гэтых непрыемных падзей. Вярнуўся пенсіянер праз два тыдні, выгнаў зяця з кватэры і адразу звярнуўся ў міліцыю. Валерый Лобач яшчэ да гэтага зняў пабоі і напісаў заяву з просьбай распачаць крымінальную справу на суседа і зяця.

У той жа дзень, як мужчына здаў патрэбныя дакументы, яму і прыйшоў адказ з... адмовай — аказваецца, напярэдадні шпіталь перадаў звесткі пра збіццё міліцыі, і міліцыянты па сваёй ініцыятыве накіравалі пісьмовы ліст Лобачу, нягледзячы на тое, што на той момант ён заявы на ўзбуджэнне крымінальнай справы яшчэ не падаваў. Асабліва абурае Валерыя Лобача тое, што яго нікуды не выклікалі, паказанняў не бралі, а разгледзелі справу толькі на падставе апытання тых, каго ён лічыць злачынцамі, — суседа і зяця.

З таго часу Валерый Лобач спрабуе прыцягнуць да адказнасці не толькі крыўдзіцеляў, аднак і мясцовую — лагойскую — міліцыю. Мужчына лічыць, што тамтэйшыя міліцыянты былі асабіста зацікаўлены ў сыходзе справы не на карысць Лобача, дзеля чаго падтасоўвалі матэрыялы справы. Так, мужчыну абвінавачваюць у тым, што ён, быццам, спрабаваў сесці ў трактар п'яным, хаця ён мае на руках паперы з пацверджаннем таго, што ў той дзень ён быў цвярозы. Валерый Лобач мае дзве здагадкі, чаму, магчыма, гісторыю са збіццём спрабуюць «замяць» — па-першае, пенсіянер ужо пяць гадоў мае асабістыя непрыязныя стасункі з цяперашнім кіраўніком лагойскай міліцыі. Па-другое, зяць Валерыя Лобача — палкоўнік КДБ на пенсіі (сын зяця працягвае працаваць у КДБ); а стрыечны брат суседа — генерал міліцыі.

**Кіраўнік цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак лічыць, што разбор крымінальных спраў стаў больш замаруджаным пасля стварэння Следчага камітэта**

Пры дапамозе пракурора і праваабаронцаў з незалежнага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» Валерыю Лобачу ўдалося дамагчыся, каб яго справу разглядалі паводле крымінальнага, а не адміністрацыйнага кодэкса. Цяпер пенсіянер чакае новае рашэнне пра завядзенне крымінальнай справы за хуліганства альбо чарговую адмову. «Цягнучка-цягнучка гэтая... Чакаюць, супакоіцца, дзед. А можа, і не дажыве», — каментуе папяровую валакіту Валерый Лобач.

### За палітыку

Гісторыя Валерыя Лобача — не адзіны падобны выпадак, з якім давялося сутыкнуцца супрацоўнікам цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву». Цяпер праваабаронцы аказваюць юрыдычную дапамогу і 82-гадоваму чальцу КХП-БНФ Мікалаю Галаўнёву, які сцвярджае, што з-за сваіх палітычных перакананняў не першы год церпіць ад суседзяў па інтэрнаце, дзе ён жыве.

У лютым 2015 года пенсіянер вяртаўся з крамы ў інтэрнат, як каля ліфта да яго падскочыў невядомы мужчына і, па словах Галаўнёва, адной рукой схапіў яго за горла, а другой — за грудзі. «Траўмаў не было, бо шыю якраз закрывала кашнэ, таму ў шпіталь я не стаў звяртацца. Пачаў крычаць вахцёркі — хто ён такі, бо бачыў, як перад гэтым яны разам размаўлялі, аднак яна толькі сказала — маўляў, адпусці яго. Я адразу з'ехаў на ліфце», — апавядае пенсіянер.

Пасля Мікалай Галаўнёў пачаў высвятляць у вахцёркі, хто ж гэта быў, і яна прызналася, хоць і не адразу, што той жыве на вышэйшым паверсе інтэрната. Тады пенсіянер напісаў у пракуратуру ліст з патрабаваннем знайсці нападніка і прыцягнуць яго да адказнасці адпаведна з законам. Пачалася доўгая перапіска мужчыны з дзяржаўнымі органамі, у часе якой імя нападніка было ўсталявана, аднак аніякага істотнага пакарання, па звестках Галаўнёва, ён не панёс. Больш за тое, вочных ставак з пацярпелым не праводзілася, збітага пенсіянера нават не выклікалі для апытання.

***

Кіраўнік цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак лічыць, што разбор крымінальных спраў стаў больш замаруджаным пасля стварэння Следчага камітэта:

— Цяпер, калі здзяйсняецца злачынства, людзі звяртаюцца ў Следчы камітэт. Там жа ўсе паперы скідваюць міліцыі, участковым і аператыўнікам. А гэтыя людзі — не следчыя, яны не ведаюць, што і як расследаваць. Многія з іх не маюць ніякай юрыдычнай адукацыі. Атрымоўваецца, колькасць спраў у Следчым камітэце, як і сведчыць статыстыка, змяншаецца, а ў РАУСах, як мы бачым на прыкладзе гэтых дзвюх гісторый, справы проста растварaюцца. Праверкі праводзяцца некампетэнтна і павярхоўна, не робяцца экспертызы, грамадзян не выклікаюць на вочныя стаўкі, на допыты не выклікаюць сведкаў...

Дайшло да таго, што заявы грамадзян наконт узбуджэння крымінальных справаў разглядаюць проста як «звароты грамадзян» у адпаведнасці з адмысловым законам. Міліцыя павінна вырашаць канфлікты, аднак мы бачым, што і ў першым, і ў другім выпадках людзям нанесеныя фізічныя і маральныя траўмы, а пакарання ніхто не панёс. Грамадзян проста «адфутбольваюць» — асабліва прыкра, калі існуе такое абыякавае стаўленне датычна самых неабароненых і бездапаможных людзей.

# Раптам успомнілі пра штраф

Марат ГАРАВЫ

**Улады прымушаюць 77-гадовую мінчанку Лідзію Пятроўну Кандрашову заплаціць штраф за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце, які адбыўся больш за чатыры гады таму.**



Былая настаўніца малодшых класаў адной з сярэдніх школ Мінска, спадарыня Лідзія распавяла, што 3 кастрычніка 2011 года на Плацы Волі яна ўдзельнічала ў не дазволеным уладамі пікеце актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры пад лозунгамі «Ашуканцаў народу — да адказнасці!», «Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — надзейны абаронца беззаконня ў краіне» і «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі і законаў краіны». Падчас гэтай акцыі міліцыянты схапілі Лідзію Пятроўну за рукі-ногі і кінулі на падлогу мінівэну, не дачакаўшыся, пакуль жанчына сталага веку сама дойдзе да аўтамашыны. У Цэнтральным РУУС пенсіянерцы стала кепска, і ёй выклікалі хуткую медычную дапамогу. Затым цягам месяцу жанчына выходзіла са стрэсу ад гэтага затрымання і здзекаў.

Лідзія Пятроўна ўпэўненая, што не за такую краіну Беларусь, дзе пануе гвалт, падчас Другой сусветнай вайны загінуў яе 38-гадовы бацька, беларус Пётр Іванавіч Кухта. Ён, мабілізаваны ў Чырвоную Армію 23 чэрвеня 1941 года, склаў сваю галаву ў баях за вызваленне Беларусі ў 1944-м.

За ўдзел у акцыі судом Цэнтральнага раёна Мінска спадарыня Лідзія была пакараная адміністрацыйным штрафам у памеры 350 тысяч рублёў. Аднак амаль чатыры гады з пенсіі жанчыны не вылічалі ў даход дзяржавы ані капейкі з вызначанай сумы штрафу. І ўспомнілі пра гэта толькі ў жніўні бягучага года. Тады пенсіянерка ўпершыню атрымала позву ад судовага выканаўцы Першамайскага раёна сталіцы Таццяны Бараноўскай аб неабходнасці выплаціць доўг. Паколькі жанчына адмовілася гэта рабіць, судовы выканаўца Першамайскага раёна Марыя Шабуня накіравала Лідзіі Пятроўне новую позву.

30 лістапада пенсіянерка сустракалася з судовым выканаўцам Марыяй Шабуняй. «Я зноўку адмовілася выплаціць штраф, бо не лічу сябе вінаватай. Гэта ўлады павінны пакрыць мне страту за маральную шкоду ад гвалтоўных дзеянняў міліцыянтаў, якія паводле ўзросту мне як праўнукі», — падкрэсліла Лідзія Кандрашова.

На гэтае пярэчанне пацярпелай судовы выканаўца прапанавала пенсіянерцы звяртацца ў суд і папярэдзіла спадарыню Лідзію, што калі яна не выплаціць доўг, ён будзе штомесяц вылічвацца з яе пенсіі ў памеры 25% ад сумы штрафу.

Дарэчы, на пікет Лідзія Кандрашова выходзіла таму, што ў свой час суд горада Слуцку і Слуцкага раёну незаконна вырашыў грамадзянскую справу аб спадкаемцах яе бацькоўскага дома, адзіным уласнікам якога прызнаны ўнук адной з родных сясцёр Лідзіі Пятроўны. Аднак на ўсе звароты ў органы суду і пракуратуры замест адказаў на канкрэтныя пытанні па грамадзянскай справе былая настаўніца атрымлівае толькі адпіскі. На думку жанчыны, саўласнікамі дому павінны быць прызнаныя і яна з сястрой, якія разам з маці ўзводзілі бацькоўскую хату замест спаленай вайной.



Фота www.ipress.ua

# Ці паўстане Каўказскі фронт?

**Эскалацыя расійска-турэцкіх адносін выклікала чуткі пра няўхільнае аднаўленне супрацьстаяння Азербайджана (саюзнік Турцыі) і Арменіі (фарпост расійскага ўплыву ў рэгіёне). Пра магчымы новы фронт на Каўказе журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае армянскі апазіцыйны палітык Арменак Даўлацян.**

***— Наколькі для армянскага палітыкуму і экспертнага асяроддзя быў відавочны канфлікт па лініі Анкара—Масква пасля таго, як Расія адкрыта падтрымала рэжым Асада?***

— Агульнавядома, што Турцыя мела долю ад экспарту нафты, якую здабываюць на тэрыторыях, кантраляваных Ісламскай дзяржавай (ІД). Транзіт рэкрутаў для ІД з Еўропы ідзе таксама праз Турцыю. Але ніхто не чакаў, што Эрдаган можа пайсці на такі вельмі супярэчлівы крок, як атака на расійскі самалёт. Ніхто, у сваю чаргу, не чакаў такой жорсткай рэакцыі з боку Пуціна.

***— Якія, на ваш погляд, матывы паводзінаў Эрдагана і Пуціна?***

— Што да Эрдагана, гэта могуць быць і яго асабістыя прычыны, і нейкія эканамічныя інтарэсы, паколькі сын турэцкага прэм'ера заўсёды быў у нафтавым бізнесе. Ёсць версія, што на канфрантацыю яго падштурхнулі ЗША, якія разлічваюць рукамі Турцыі адцягнуць Расію ад Сірыі і Украіны. Трэба таксама нагадаць, што ў Турцыі на ўзроўні ўрада сфармулявана задача ўсталявання кантролю над сірыйскім раёнам Латакія, фармальнай падставай для чаго можа быць падтрымка сірыйскіх туркменаў. Але турэцкія стаўкі ў канфлікце несувымерныя з рускімі. Калі Пуцін прайграе ў Сірыі і дапусціць стварэнне сталых інстытутаў Ісламскай дзяржавы, то нас чакае новы раўнд бітвы за Паўночны Каўказ, актывізацыя ісламістаў у Сярэдняй Азіі, у якую будуць з часам уцягнуты нават мусульмане цэнтральнай Расіі.

***— Як у Арменіі ўспрынялі апошнія падзеі? Расійская прэса паведамляе, што армяне гатовыя як адзін падтрымаць Маскву ў паходзе на Басфор.***

— Насамрэч, рэакцыя неадназначная. Ёсць фракцыя армян, якая падтрымлівае агрэсіўную лексіку Масквы. Ім падабаюцца заявы расійскіх палітыкаў наконт дэнансацыі Карскай дамовы 1921-га, які прызнае шэраг рэгіёнаў гістарычнай Арменіі часткай Турцыі. Але частка насельніцтва баіцца, што Расія проста выкарыстоўвае армянскую карту, як неаднаразова было ў гісторыі. Напрыклад, калі бальшавікам сітуацыйна было патрэбна перамір'е, яны, не задумваючыся пра нацыянальныя інтарэсы армян, аддалі туркам той жа армянскі Карс. Прыхільнікі гэтай опцыі лічаць, што армянскае войска здольнае абараніць суверэнітэт без дапамогі Масквы. Нарэшце, ёсць група людзей, якая пакуль чакае. Да гэтага лагера я аднёс бы армянскую дыяспару на Захадзе.

**І ў Расіі, і ў ЗША ёсць стары план стварэння з фрагментаў Сірыі, Ірака і Турцыі незалежнага Курдыстана. Але ён фактычна вядзе да падзелу Турцыі**

***— Улетку ў Арменіі мелі месца вялікія сацыяльныя хваляванні. Ці можа ўлада зараз за кошт патрыятычнай рыторыкі ўзняць свой рэйтынг?***

— Не думаю. На сённяшні дзень узровень даверу да ўрада зваліўся ніжэй за плінтус. Мне здаецца, за кошт патрыятычнай агітацыі яго не выратаваць. Некалькі дзён таму ў нас была арыштавана адна ўзброеная група, якая, па версіі афіцыёзу, рыхтавала замахі на чальцоў урада. Хоць юрыдычна мы маем усе прыкметы падрыхтоўкі тэракту, у грамадстве ўдзельнікаў змовы разглядаюць як нейкіх робін гудаў, якія хацелі выратаваць народ.

***— Як вы ацэньваеце рэакцыю на сірыйскія падзеі ў Азербайджане?***

— У Баку вельмі ціха. Там асабліва не каментуюць тое, што адбываецца за мяжой, хоць Турцыя і Расія — галоўныя партнёры Аліева. Зрэшты, Аліеву відавочна было не да сусветнай геапалітыкі — у адным з правінцыйных гарадоў успыхнулі вулічныя беспарадкі, за якімі стаялі радыкальныя ісламісты. Яшчэ адзін стрымліваючы фактар, каб захоўваць нейтралітэт, — дэманстрацыя Расіяй патэнцыялу каспійскай флатыліі, якая бамбуе Сірыю з акваторыі Каспія.

***— Як паўплывае канфлікт паміж Пуціным і Эрдаганам на курдскае пытанне?***

— У Масквы ёсць праграма працы з курдамі, хоць у апошні час амерыканцы спрабавалі перахапіць ініцыятыву. І ў Расіі, і ў ЗША ёсць стары план стварэння з фрагментаў Сірыі, Ірака і Турцыі незалежнага Курдыстана. Але такі план фактычна вядзе да падзелу Турцыі, што дасюль тармазіла яго публічнае анансаванне. Магчыма, цяпер Расія больш адкрыта падтрымае такі сцэнар. Як я ўжо казаў, губляць Пуціну няма чаго.

***— Ці могуць наладзіцца турэцка-расійскія адносіны?***

— Пакуль казаць пра гэта рана. Палітыкам трэба захаваць твар, а значыць, яны не будуць ісці на кампраміс так хутка. Але нават аднаўленне статус-кво не вырашыць канфлікт. Там шмат іншых праблем. У 1980-я гады, калі я працаваў у Сірыі, нам як грамадзянам СССР не рэкамендавалі наведваць горад Хомс. Аказваецца, там было паўстанне супраць бацькі цяперашняга прэзідэнта, якое той жорстка здушыў. Пасля штурму Хомс на тры дні быў аддадзены салдатам на рабаванне. Прайшло амаль 30 гадоў, але, здаецца, ніхто нічога не забыў. Як толькі пачалася арабская вясна, Хомс паўстаў. Традыцыя — гэта толькі адзін з чыннікаў канфлікту. Сённяшні Блізкі Усход — гэта распалены кацёл, у якім перамяшаліся фінансавыя інтарэсы, энергетычныя схемы, геапалітыка, міжканфесійныя разборкі, памежныя спрэчкі і г.д. Што атрымаецца ў выніку, я баюся прагназаваць.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эксперты схільныя тлумачыць падвышаную ўрачыстасць прыёму азербайджанскага лідара складанасцямі на маскоўскім кірунку і няўдалым візітам Лукашэнкі ў Маскву напярэдадні. (...) Эксперты разыходзяцца ў сваіх здагадках адносна таго, хто адмяніў сустрэчу — Лукашэнка ці Пуцін. Беларускія аналітыкі схіляюцца да таго, што ініцыятыва належала Маскве, якой стала не да Лукашэнкі і яго крэдытных запытаў. Расійскія эксперты выказваюць меркаванне, што беларускі прэзідэнт сам мог не паехаць у Маскву, каб не выказвацца публічна з нагоды расійска-турэцкага канфлікту.

**«Независимая газета» (Расія)**

Літва павінна знайсці палітычны спосаб, каб зрабіць Беларусь нейтральнай. Аляксандр Лукашэнка ўжо казаў, што Беларусь не будзе расійскай правінцыяй і не прыме расійскія ваенныя базы. Лукашэнка з'яўляецца ці павінен быць Ціта нашага часу (былы лідар Югаславіі, які не падпарадкаваўся кантролю Масквы).

**Delfi (Літва)**

Шчыра кажучы, ужо надакучылі енкі беларускіх «свядомых» пра нейкія ўяўныя анексійныя планы, распрацаваныя ў Крамлі. Гэта ўжо нават не русафобія, а самая звычайная фобія з медыцынскай галіны. Урэшце, менавіта Саюзная дзяржава якраз і з'яўляецца галоўным гарантам беларускага дзяржаўнага суверэнітэту. А што да Крыму, то спадару Януковічу (старшыня БНФ) варта нагадаць пра тое, што «крымскі сцэнар» ніколі не зможа паўтарыцца ў Беларусі, калі БНФ і іншыя русафобскія палітычныя арганізацыі не паўтораць у Мінску «кіеўскі сцэнар». Калі хтосьці і можа паставіць пад пагрозу незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць Рэспублікі Беларусь, дык гэта мясцовыя нацыянал-«свядомыя» маргіналы.

**«Материк» (Расія)**

Чаму ж чаму на нашай авіябазе ў Сірыі дагэтуль не размешчана пару знішчальнікаў беларускіх ВПС з нашай сумеснай базы ў Баранавічах? Мы ж так цудоўна інтэграваліся, экіпажы выдатна ведаюць адзін аднаго, не раз выконвалі сумесныя навучальныя задачы. Ці не час для Лукашэнкі не на словах, а на справе паказаць братэрскую любоў двух славянскіх народаў? Са сваіх крыніц у Беларускіх ПС ведаю, што падобны загад не выкліча там абурэння. Больш таго, асобныя старшыя афіцэры беларускіх ПС лічаць, што аказанне братэрскай дапамогі Расіі ў барацьбе з сусветным тэрарызмам толькі на карысць. Але пакуль мы не бачым парываў з Мінска, які жадае ўсядзець на двух крэслах, выконваючы нейтралітэт. А ці прыстойна гэта?

**«Газета.ру» (Расія)**

У 2011 годзе Беларусь апынулася пад еўрапейскімі санкцыямі, і зноў Азербайджан працягнуў руку дапамогі. Крок, непапулярны для краіны, якая ўдзельнічае ў Еўрапейскім суседстве. Нездарма ён выклікаў раздражненне ў нядобразычліўцаў у рэспубліцы і за яе межамі. Аднак такія нюансы Баку ніколі не турбавалі. Такі асноўны прынцып праўдзівага сяброўства — ніколі не ахвяраваць ёю ва ўгоду кан'юнктуры. Гэтаму прынцыпу вынікаюць і Мінск, і Баку.

**«Day» (Азербайджан)**

Цікава тое, што сама Расія нават і не падумала звяртацца за падтрымкай да сваіх саюзнікаў па АДКБ, а тыя і не падумалі яе выказаць. Расійскія прапагандысты змушаны гойсаць па твітарах казахстанскіх ці беларускіх службоўцаў, каб убачыць словы падтрымкі. І таксама — практычна нічога не знаходзяць. Аляксандр Лукашэнка, каб не сказаць лішняга, наогул адмовіўся ад прыезду ў Маскву і перамоў з Уладзімірам Пуціным.

**«Эспрессо» (Украіна)**

4 снежня 2015 | № 46 (463) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Лідар «Океана Ельзи» стане прэзідэнтам?

Львоўскае выданне «Экспресс» сцвярджае, што амерыканцы рыхтуюць ракіроўку на самым высокім узроўні. Маўляў, плануецца адправіць у адстаўку прэзідэнта Пятра Парашэнку і прэм'ера Арсеня Яценюка, рэйтынгі якіх імкліва падаюць. Не падабаюцца за акіянам і тэмпы рэформаў, якія праводзяць прэзідэнт і прэм'ер. Паводле выдання, найбольш перспектыўныя фігуры на будучыя вакантныя пасады — былы кіраўнік Службы бяспекі Украіны Валянцін Налівайчанка і лідар папулярнага рок-гурта «Океан Ельзи» Вячаслаў Вакарчук. Пра палітычныя амбіцыі музыканта, як піша выданне, сведчыць тое, чым ён займаецца апошні час. Прыкладна чатыры апошніх месяцы Вакарчук праходзіць у Ельскім універсітэце ЗША так званыя лідарскія курсы, якія па сутнасці — падрыхтоўка да публічнай палітыкі. Называецца і канкрэтная дата запуску працэсу змены ўлады — 7 снежня, калі амерыканскі віцэ-прэзідэнт Джо Байдэн наведае Кіеў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Абраны чарговы «лідар нацыі»

Група дэпутатаў ніжняй палаты парламента Таджыкістана распрацавала законапраект пад назвай «Пра заснавальніка міру і згоды — лідара нацыі». Законапраект падрыхтаваны для надання тытула «Лідар нацыі» прэзідэнту Таджыкістана Эмамалі Рахмону. Гэты тытул неафіцыйна быў нададзены яму яшчэ два месяцы таму, а цяпер дэпутаты вырашылі ўсё афарміць афіцыйна. Па-таджыкску «лідар нацыі», дарэчы, гучыць як «пешваі мілат». Застаецца дадаць, што ў Цэнтральнай Азіі з 2010 года тытул «Лідар нацыі» мае прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў. Па-казахску гэта гучыць як «Елбасы». У Туркменістане прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава называюць «Аркадаг», што азначае «заступнік».

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Чаму тэрарысты не любяць рок-клубы?

Французская прэса сцвярджае, што знайшла адказ на пытанне, чаму аб'ектам атакі тэрарыстаў 13 лістапада стаў рок-клуб «Bataclan». Справа ў тым, што напярэдадні тэрактаў сярод радыкальных мусульман вялікай папулярнасцю карыстаўся запіс нейкага Рашыда Абу Худэйфа. Рашыд — імам, які ў сваіх пропаведзях сярод іншага называе рок-музыку справай д'ябла. Тыя ж, хто слухаюць музыку, па словах імама,ператвараюцца ў малпаў і свінняў. Менавіта гэтага Рашыда, быццам, і наслухаліся тэрарысты. У доме прапаведніка паліцыя ўжо зрабіла вобшук, а кіраўніцтва МУС паставіла пытанне пра дэпартацыю радыкала. Цікава, што сам Рашыд адразу пасля забойстваў у Парыжы напісаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку, што забойцы не з'яўляюцца сапраўднымі мусульманамі. Пазней ён нават заклікаў вернікаў дапамагчы паліцыі злавіць тэрарыстаў.

**Паводле французскай прэсы**

### ПЕРУ. Індзейцы Амазонкі атрымалі дзяржаўнасць



Фота www.andina.com.pe

Wampis — так называецца новая дзяржаўная адзінка, якая была абвешчаная 29 лістапада і знаходзіцца на тэрыторыі Перу. Гэта ўтварэнне пакуль згоднае абмежавацца правамі аўтаноміі. Абвяшчаць незалежнасць індзейцы гатовыя ў выпадку, калі Ліма не пагодзіцца на сфармуляванае ў Дэкларацыі аб стварэнні Wampis патрабаванне — перадаць пад кантроль абарыгенаў усе прыродныя рэсурсы рэгіёну. Наўрад ці цэнтральны ўрад у Ліме будзе ў захапленні ад ініцыятывы індзейцаў, хаця б таму, што, паводле Дэкларацыі аб стварэнні Wampis, тэрыторыя аўтаноміі павінна ўключаць каля 1,3 мільёна гектараў зямель, на якіх шмат карысных выкапняў. Акрамя таго навіна з Амазонкі паставіла перуанскую дэлегацыю на сусветным кліматычным форуме ў Парыжы ў пікантную пазіцыю: амазонскія джунглі — адна з галоўных планетарных крыніц кіслароду, аднак, як цяпер высвятляецца, кантролю на імі ўрад Перу не мае.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Мода на акупацыю

Алег НОВІКАЎ




Фота www.dailyreadlist.com

**Інтарэс, які выклікаў серыял «Чалавек у высокім замку», што распавядае пра альтэрнатыўны фінал Другой сусветнай вайны, яшчэ раз пацвердзіў: фантазіі на тэму акупацыі — адзін з самых моцных прыёмаў палітычнай прапаганды.**

Гісторыя не ведае імя чалавека, хто першы прыдумаў мабілізаваць грамадскую думку за кошт выдуманых гісторый пра акупацыю радзімы. Для даследчыкаў гісторыі культуры чалавецтва гэта, безумоўна, істотны прабел. Твораў пра верагодную акупацыю створана мноства — у выяўленчым мастацтве, літаратуры, тэатры, кіно... Пры гэтым сюжэт звычайна дастаткова просты — малююцца рэаліі, якія могуць паўстаць у выпадку прыходу ў краіну нейкай варожай сілы. Нягледзячы на прымітыўнасць фабулы, творы выклікаюць самыя моцныя эмоцыі, і ў тым ліку патрыятычныя.

Рызыкнем выказаць здагадку, што піянерамі ў гэтай галіне былі брытанцы. Прынамсі менавіта ў час напалеонаўскіх войнаў яны паставілі на шырокую нагу друк малюнкаў з сюжэтам пра тое, што чакае Альбіён у выпадку французскай акупацыі. Як правіла, акупацыя выглядала на тых малюнках як нейкая крывавая оргія. Вельмі часта да гэтага дадаваўся паветраны шар — чамусьці англічан вельмі палохалі паветраныя шары, якія на той час выкарыстоўвалі французы.

Следам за мастакамі прыйшла чарга літаратараў. Пасля 1871 года ў заходняй масавай літаратуры ўзнік цэлы накірунак, які распавядаў пра фіктыўныя акупацыі. Моду задаў Джордж Чэснэй з кнігай «The Battle of Dorking». Па сюжэту кнігі немцы захопліваюць усю Англію, акрамя маленькага гарадку Доркін, які ўпарта працягвае супраціўляцца. Да Першай сусветнай вайны пра розныя акупацыі было выдадзена каля 400 кніг, а некаторыя з іх сталі нацыянальнымі бестселерамі.

Чытачамі такіх твораў, як правіла, былі простыя людзі, што дазваляе сучасным гісторыкам ускласці на аўтараў твораў пра фіктыўныя войны і акупацыі частку адказнасці за падрыхтоўку палітычнай атмасферы, якая прывяла да выбуху Першай сусветнай вайны. Цікава, што выдаўцы, якія гулялі на патрыятычных настроях, былі вельмі прагматычнымі асобамі. Так, у 1906 годзе часопіс «Le Queux», які выдаваўся на 27 мовах, умудрыўся апублікаваць у Германіі і Брытаніі розныя фіналы аповесці «The Invasion of 1910» пра будучую вайну. У брытанскай версіі перамагалі брытанцы, а ў нямецкай, адпаведна, — немцы.

Зрабіў свой сціплы ўнёсак у жанр і славуты фантаст Герберт Уэлс, які ў 1907 годзе напісаў кнігу «Вайна ў паветры», у якой дырыжаблі тэўтонаў атакуюць Нью-Ёрк. Цікава, што ў сваіх фантазіях пісьменнікі часта прадказвалі, як будзе выглядаць вайна ў будучым. Напрыклад, той жа Уэлс апісаў бамбардзіроўкі гарадоў, што раней лічылася чымсьці абсалютна варварскім. Ёсць думка, што японскую эліту ў 1904 годзе падштурхнуў на хуткі канфлікт з Расіяй фурор рамана «Падводная бітва» журналіста Шунро Ашыкава (Shunrō Oshikawa), які распавядае пра імаверную руска-японскую вайну за Сібір.

Паступова з развіццём кінаіндустрыі тэма перавандравала на вялікі экран. У 1930-я гады брытанцы знялі некалькі стужак пра будні Англіі пад дыктатам Гітлера. Аднак сваю кульмінацыю кінажанр пра прыдуманыя акупацыі, безумоўна, перажыў у часы халоднай вайны, калі галоўным магчымым акупантам стала савецкая армія.

Класічнымі лічацца фільмы «Invasion USA» (1956) або «Point Ultimate» (1955). Сюжэт аднолькавы — ЗША з дапамогай мясцовых камуністаў акупуюць рускія, усталёўваючы новыя парадкі. Трэба сказаць, што спроба паказаць ЗША, дзе пануе сацыялістычны лад, выглядае зараз трошкі камічнай. Асабліва смешна глядзець на розныя амерыканскія калгасы, якія савецкія інтэрвенты насаджаюць на захопленай тэрыторыі. Аднак на той час нічога смешнага ў сцэнах з амерыканскімі калгасамі не было.

Як толькі фантазіі пра войны сталі часткай прапаганды, з'явіліся і пароды на іх. Яшчэ славуты сатырык Пелам Вудхаўс на пачатку ХХ стагоддзя высмеяў моду на такія творы. У адным з яго раманаў Вялікабрытанію адразу атакуе дзевяць дзяржаў, уключаючы Швейцарыю. Пакольні ўся англійская эліта занятая турнірам па крыкету, місію выратавання бярэ на сябе нейкі скаут-тынейджар.

Амерыканцаў пужалі не толькі Саветамі, аднак і кітайцамі. На мяжы 1960–1970-х гадоў было знята некалькі фільмаў пра напад войскаў Маа. Стваральнікі фільмаў давалі волю фантазіі: напрыклад, у фільме «Battle Beneath the Earth» кітайцы намагаюцца атакаваць ЗША з дапамогай выкапанага праз усю планету тунелю. У 1974 годзе ў Францыі быў зняты фільм пра акупацыю Парыжа кітайскімі камуністамі. Праўда, гэты была хутчэй карыкатура на французскіх буржуа, якія пасіўна ўспрымаюць агрэсію. Супраціў французы аказваюць толькі ў адным выпадку — калі кітайцы канфіскуюць у іх машыны на патрэбы працоўных Пекіна.

Пасля таго, як Ніксан на пачатку 1970-х пасябраваў з Маа, кітайцаў у падобных фільмах зноў замянілі рускія.

Аднак у 1970-я гады ў кіно прыйшла мода на інтэрвентаў-іншапланецян. Гэта тэма фактычна высесціла жахі рускай акупацыі. А пасля таго, як СССР не стала, тэма фіктыўных акупацый, здавалася, наогул сябе вычарпала. Нягледзячы на тое, што ў 2012 годзе ў Галівудзе знялі рымейк «Red Dawn» пра імаверны захоп ЗША войскамі паўночнай Карэі, прэм'ера фільма так і не адбылася.

Цяперашні рост напружанасці ў свеце, падаецца, зноў рэанімаваў амаль забыты жанр. Так, у гэтым годзе пабачыў свет серыял «Акупаваныя», які паказваў, як Расія, са згоды Еўрасаюза, урываецца ў Нарвегію, урад якой спыніў нафта- і газаздабычу ў Паўночным моры. Серыял выклікаў шмат пратэстаў з расійскага боку, хаця расіян у фільме амаль няма. Функцыі акупацыйнай адміністрацыі на экране цудоўна выконваюць самі нарвежцы.

Не мае, на першы погляд, яскравага палітычнага паслання і фільм «Чалавек у высокім замку», па сюжэту якога нацысты акупуюць ЗША. Хутчэй, тэма нацысцкай акупацыі абрана тут як фон для лепшага раскрыцця ідэі крохкасці дэмакратычных каштоўнасцяў. Аднак гэта ўсё ж насцярожыла амерыканцаў. Пабачыўшы рэкламу серыялу, у якой статуя Свабоды выяўлена з выкінутай наперад у фашысцкім прывітанні рукой, грамадскасць узняла пратэст. Рэкламу прыбралі. Як бы бяскрыўдна не выяўлялі акупацыю, яна ўсё роўна ўспрымаецца як акупацыя.

# З’езд пераможцаў

Алег НОВІКАЎ

**У Гановеры адбыўся з’езд правай папулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая, паводле апытанняў, цяпер з’яўляецца трэцяй па папулярнасці палітычнай сілай у краіне.**

Усе каментатары згодныя, што першапачаткова з’езд у Гановеры рыхтавалі для таго, каб даслаць грамадству сігнал, што партыя яшчэ не сканала. Улетку структура прайшла праз паласу ўнутраных канфліктаў. Нават яе былы заснавальнік Бернд Луке паклаў партбілет на стол, каб заснаваць новы праект. Адначасова адвярнуліся ад партыі і былыя спонсары.

Аднак бліжэй да з’езда канцэпцыя змянілася. Працяглы крызіс з імігрантамі ўзмацніў правыя настроі ў нямецкім грамадстве, выклікаў сумневы ў праекце адзінай Еўропы, які не здольны гарантаваць бяспеку на знешніх межах. Бенефіцыярам трэнду стала «Альтэрнатыва для Германіі» — найбольш раскручаная ў мясцовай прэсе партыя еўраскептыкаў.

Прычым рэйтынг AfD не проста ўзняўся, а ўзняўся на парадак — згодна з сацыялагічнымі даследаваннямі, сёння партыю Фраўке Петры гатовы падтрымаць на выбарах кожны дзясяты выбаршчык у ФРГ. У трох землях ФРГ «Альтэрнатыва для Германіі» — другая па папулярнасці партыя. На хвалі росту рэйтынгу партыя нават абвясціла вулічную кампанію «Восеньскі наступ». Адным словам, мерапрыемства ў Гановеры са з’езду няўдачнікаў ператварылася ў з’езд пераможцаў.

Не дзіўна, што атмасфера ў зале з’езду была вельмі наэлектрызаваная, а сярод дэлегатаў панаваў самы баявы настрой. Пра гэта сведчыць радыкальны змест фінальных рэзалюцый. Дастаткова сказаць, што партыя выступае за дэпартацыю з краіны ўсіх імігрантаў, якія прыбылі сюды ў час міграцыйнага крызісу. Іх прапануецца адправіць у тыя краіны, праз якія яны трапілі ў Германію. Таксама дэкларуецца ідэя ўвогуле прыбраць з нямецкіх законаў права іншаземцаў прасіць прытулак у Германіі.

У глабальным вымярэнні рашэнне праблемы бежанцаў бачыцца альтэрнатыўшчыкам праз узмацненне ролі Масквы ў сірыйскім супрацьстаянні. Маўляў, толькі Расія, абапіраючыся на саюзны рэжым Асада, здольная хутка лакалізаваць мясцовых ісламістаў і закончыць вайну, якая прымушае сірыйцаў бегчы ў накірунку Еўропы. Роля Германіі ў такім сцэнары заключаецца ў тым, каб дабівацца зняцця санкцый з Крамля для ўзмацнення яго мілітарнага патэнцыялу.

На дэсерт дэлегаты з’езда яшчэ раз паабяцалі выбаршчыкам вярнуць нямецкую марку, абараніць «нямецкую нацыянальную ідэнтычнасць», паставіць памежнікаў уздоўж кардонаў ФРГ, увесці для балканскіх краін візавы рэжым і, нарэшце, не дапусціць эрозіі сямейных каштоўнасцяў. Рэалізацыя агучаных у Гановеры абяцанняў намечана на 2017 год, калі «Альтэрнатыва для Германіі» плануе стаць сябрам урадавай кааліцыі. Праўда, для гэтага, па словах старшыні, партыя павінна прадэманстраваць добры вынік на выбарах у зямельныя парламенты ў наступным годзе і выйсці на парламенцкія выбары праз два гады, маючы падтрымку мінімум 20 працэнтаў электарату.

Наколькі рэалістычная перспектыва прыходу «Альтэрнатывы для Германіі» да ўлады? Калі цвяроза паглядзець на сітуацыю, то не надта. Пакуль у грамадстве захаваліся сфармаваныя падчас пасляваеннай кампаніі па дэнацыфікацыі моцныя забабоны супраць усялякага праекту, які ў партыйным спектры знаходзіцца правей за кансерватараў. Пра гэта сведчыць, напрыклад, спантанная рэакцыя ўладальнікаў гановерскіх гатэляў, якія адмаўляліся сяліць у сябе альтэрнатыўшчыкаў, каб не губляць рэпутацыю.

Акрамя таго ніводная партыя пакуль не гатовыя ісці ў кааліцыю да AfD. Кіраўніцтву ўрадавых кансерватараў у прынцыпе пакуль удаецца ўтрымаць мясцовы актыў ад кантактаў з партыяй Фраўке Петры. Нарэшце, «Альтэрнатыва для Германіі» разглядаецца часткай эліты як выклік інстытутам нямецкай дэмакратыі. Дырэктар МУС у зямлі Цюрынгія ўвогуле не выключае, што яго ведамства пачне сачыць за сябрамі «Альтэрнатывы для Германіі» як за патэнцыйнымі экстрэмістамі.

Аднак большасць лічыць, што можна абысціся без паліцэйскіх мераў. Каб выклікаць у грамадстве сумнеў адносна «Альтэрнатывы для Германіі», дастаткова давесці папулісцкую прыроду яе маніфестаў. Напрыклад, ідэя адправіць усіх эмігрантаў з ФРГ у адну з балканскіх краін ЕС, праз якія яны трапілі ў Еўрасаюз, супярэчыць цэламу шэрагу міжнародных канвенцый, не кажучы пра тэхнічную складанасць аперацыі.

З іншага боку большасць аналітыкаў прызнаюць, што імунітэт супраць правага папулізму сярод звычайных бюргераў паслаблены з-за няздольнасці ўраду хутка вырашыць праблему імігрантаў і даць адказ на выклік ісламскага тэрарызму. Адной тэмы імігрантаў дастаткова, каб адносна вялікая частка немцаў эмацыйна, па пратэстных матывах галасавала за «Альтэрнатыву для Германіі». Пра эмацыйныя складнік у поспеху AfD сведчыць і растучая колькасць гвалту на вулічных акцыях, арганізаваных партыяй.




Фота www.cicero.de

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Яўген Шаўчук



Прэзідэнт Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі (ПМР) паспрабаваў арганізаваць Майдан пасля таго, як былі агучаныя вынікі выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі. Паводле іх, партыя Шаўчука прайграла партыі «Абнаўленне», за якой стаіць эканамічная групоўка «Шэрыф». У адказ прыхільнікі ўлады заклікалі да вулічных акцый супраць фальсіфікацыі галасавання. 2 снежня прыкладна 400 чалавек сапраўды сабраліся ў цэнтры Цірасполя. Аднак далей пачалося нешта дзіўнае. Хутка маніфестанты, большасць з якіх складалі прыгнаныя бюджэтнікі, разышліся. У дадатак на арганізатараў акцыі распачалі адміністратыўную справу. Хуткі фінал прыднястроўскага Майдану звязваюць з тэлефанаваннем з Масквы, якая па сутнасці — куратар мясцовага рэжыму. Відавочна, у Крамлі не зацікаўленыя ў дэстабілізацыі сітуацыі ў рэгіёне, які акрамя ўсяго з’яўляецца важным фактарам ціску на Кіеў. Усё ідзе да таго, што Шаўчук будзе вымушаны падзяліцца ўладай. Іншымі словамі, прадстаўнік партыі «Абнаўленне» атрымае пасаду прэм’ера (хоць яго кандыдатуру ўносіць прэзідэнт), Кабмін сканцэнтруе частку ўладных паўнамоцтваў на сабе, а Шаўчуку дазволяць быць прэзідэнтам да канца тэрміну. Такі кансэнсус, праўда, не значыць вырашэнне глабальнай задачы — як ПМР будзе выжываць ва ўмовах фактычнай эканамічнай блакады — вынік таго, што Малдова і Украіна ўваходзяць у зону вольнага гандлю з ЕС. Калі на працягу 5–7 гадоў у Маскве не вынайдуць формулы, як жыць далей, праект ПМР чакае калапс.



### Эдуард Хельвіг

Румынская служба інфармацыі (спецслужба), старшынёй якой з’яўляецца Хельвіг, апублікавала сенсацыйную заяву, у якой праінфармавала грамадскасць пра арышт групы венгерскіх тэрарыстаў — «Моладзевага руху 64-й акругі». Сябры руху, быццам, планавалі тэракт падчас камерцыйнай выставы, запланаванай у Бухарэсце. Калі верыць дырэктару SRI, падчас арышту у падазраваных была знойдзена бомба і 250 кілаграмаў выбуховых рэчываў. Румынскія чэкісты таксама лічаць, што арганізатары тэракту нейкім чынам звязаныя з венгерскай партыяй «Jobbik». Менавіта «Jobbik», быццам, дапамог яшчэ ў 2001 годзе стварыць сетку радыкалаў, якія, праўда, адразу трапілі ў фокус увагі SRI. Хельвіг лічыць, што каталізатарам для падрыхтоўкі тэракту сталі падзеі ў Парыжы, якія кепска паўплывалі на псіхіку венгерскага насельніцтва, што жыве ў Трансільваніі (румынскі рэгіён, дзе шмат этнічных венграў). Пакуль што румынская грамадскасць адкрыта смяецца з камюніке Румынскай службы інфармацыі. Шмат каму кідаюцца ў вочы недарэчнасці версіі SRI. Напрыклад, чаму венгры-тэрарысты не былі арыштаваныя адразу пасля таго, як у 2001 годзе пачалі сваю канспіратыўную дзейнасць у Румыніі? У любым выпадку, гэта справа не палепшыць стан венгерска-румынскіх адносін.

### Рычард Петру



Паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, у выпадку правядзення заўтра выбараў у Польшчы за «Грамадзянскую платформу» (PO) прагаласавалі 16 працэнтаў палякаў, а за партыю «Nowoczesna», лідарам якой з’яўляецца эканаміст Петру — каля 17 працэнтаў. Такім чынам, «Nowoczesna» паступова становіцца вядучай партыяй польскай апазіцыі, што дастаткова незвычайна для фармацыі, якая была фармальна заснаваная толькі 31 мая гэтага года. З улікам таго, што «Nowoczesna» і «Грамадзянская платформа» адносяць сябе да партый ліберальнага накірунку, відавочна, што рост прыхільнікаў Рычарда Петру адбываецца за кошт былога электарату PO. Аднак змест праграм гэтых партый усё ж адрозніваюцца. Так, у праграме PO значна больш месца адводзіцца міжнароднай праблематыцы, у той час як «Nowoczesna» арыентаваная перш за ўсё на пошук вырашэння ўнутраных эканамічных пытанняў. Праўда, Рычард Петру, як і кіраўніцтва «Грамадзянскай платформы», стаіць на пазіцыях падтрымкі працэсу еўраінтэграцыі. Застаецца дадаць, што лідарам рэйтынгаў сацыялагічных апытанняў па-ранейшаму застаецца ўрадавая кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» (PiS), якая карыстаецца падтрымкай 42 працэнтаў палякаў.

4 снежня 2015 | № 46 (463) Новы час

# Пясняр чыстае Красы на паштоўках

Сяргей ЧЫГРЫН

**З нагоды чарговага дня нараджэння Максіма Багдановіча, якое будзе адзначацца 9 снежня, хацеў бы ўзгадаць пра паштоўкі ў яго гонар. Было іх, дарэчы, не так і шмат, але некаторыя вартыя, каб пра іх узгадалі.**




Першыя паштоўкі ў гонар беларускіх літаратараў з'явіліся ў 1906 годзе. Іх выпусціла беларуская выдавецкая суполка ў Санкт-Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша ваконца». На паштоўках былі партрэты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны.

А вось класік беларускай літаратуры, пясняр Чыстае Красы Максім Багдановіч (1891–1917) на паштоўках з'явіўся толькі пасля Другой сусветнай вайны. У 1958, 1963 і ў 1973 гадах у беларускіх дзяржаўных выдавецтвах выдаваліся падборкі паштовак з партрэтамі многіх беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх быў і партрэт Максіма Багдановіча. А ў 1978 годзе маскоўскае выдавецтва «Советский художник» партрэт Максіма Багдановіча беларускага мастака Монаса Манасзона (1917–1980) рэпрадукавала на паштоўцы.

Арыгінальная паштоўка, прысвечаная Максіму Багдановічу, з'явілася накладам 10 000 асобнікаў у 1981 годзе ў мінскім выдавецтве «Беларусь». Над паштоўкай працавалі вядомыя майстры — графік Пятро Драчоў (1937–2005) і фатограф Валянцін Ждановіч (1937–1992), якія па архіўных матэрыялах даследчыцы творчасці Максіма Багдановіча Ніны Ватацы (1908–1997) аднавілі партрэт паэта і перанеслі яго на паштоўку.

Дарэчы, Ніна Барысаўна Ватацы ўсё жыццё займалася багдановічазнаўствам. Яна адшукала і апублікавала невядомыя тэксты, аўтографы і фотаздымкі Максіма Багдановіча, склала літаратурны альбом пра яго жыццё і творчасць (сумесна з Алегам Лойкам, 1968) і зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў «Шлях паэта» (1975), бібліяграфічны паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры «Максім Багдановіч» (1977).

Ніна Ватацы адсачыла гісторыю партрэта Максіма Багдановіча. На паштоўцы — той партрэт, які ўпершыню з'явіўся ў другім выданні зборніка «Вянок» (Вільня, 1927). Гэта фрагмент з групавога здымка 1915 года супрацоўнікаў яраслаўскай газеты «Голос», дзе працаваў паэт.









Некалькі паштовак з выявамі класіка беларускай літаратуры пабачылі свет да 100-годдзя Максіма Багдановіча. Былое Міністэрства сувязі СССР у 1991 годзе ў Маскве выпусціла 100-тысячным накладам паштоўку, на якой адлюстраваны партрэт Максіма Багдановіча, чарнільніца з пяром, кнігі ў левым куточку паштоўкі і тэкст зверху: «100 гадоў з дня нараджэння», а ўнізе пад партрэтам напісана: «Беларускі паэт Максім Багдановіч 1891–1917». Аўтарам паштоўкі з'яўляецца мастачка Яўгенія Галубятнікава.

Арыгінальная паштоўка да 100-годдзя Максіма Багдановіча выйшла з друку ў Нью-Ёрку. Паштоўку выпусціў Беларускі інстытут навукі і мастацтва, аўтарам яе з'яўляецца мастачка Ірэна Рагалевіч-Дудко. Паштоўка выйшла на беларускай і англійскай мове. Вершаваныя радкі з беларускай мовы на англійскую пераклала вядомая англійская перакладчыца, журналістка і гісторык Вера Рыч (1936–2009). На паштоўцы намаляваны партрэт Максіма Багдановіча, Пагоня і напісаны радкі з верша «Пагоня» паэта на беларускай і англійскай мовах: «Біце ў сэрцы іх — біце мячамі! Не давайце чужынцамі быць!» (Strike them, strike to the heart with swords brandished, Let them not into foreigners turn!).

Адзначыла 100-годдзе класіка і мінскае выдавецтва «Беларусь». Яно ў 1991 годзе таксама выпусціла паштоўку, прысвечаную Максіму Багдановічу ў афармленні Міхала Баразны. На адным баку паштоўкі — малады і прыгожы Максім, а на адваротным баку надрукаваны яго верш «Пагоня».

Шмат зрабіла для ўшанавання памяці Максіма Багдановіча гродзенская паэтка і публіцыстка Данута Бічэль. Дзякуючы яе руплівасці ў 1986 годзе ў Гродна быў адкрыты музей паэта, і спадарыня Данута да 1998 года яго ўзначальвала. Гэта дзякуючы Данунце Бічэль у гродзенскім музеі Максіма Багдановіча адбываліся шматлікія вечары, сустрэчы, прэзентацыі. Музей выдаваў буклеты, кнігі, запрашэнні і, вядома ж, паштоўкі.

> У 1994 годзе быў створаны філіял музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына»

У 1996 годзе ў гродзенскай друкарні накладам 500 асобнікаў была выпушчана паштоўка, прысвечаная маці Максіма Багдановіча Марыі Багдановіч (1869–1896). На адным баку паштоўкі змешчаны партрэт маладой і прыгожай Марыі Багдановіч і радкі з верша Максіма: «І ціха думаў я: быць можа, любоў, палёгшы у трунах, перамагла і смерці жах!». А на адваротным баку паштоўкі надрукаваны верш паэта «Раманс»:

*Не знайсці мне спакою*
*Ні цёмнай ночай, ні днём,*
*Бо любоў мяне мучыць і паліць*
*Пякельным агнём.*
*Але ведама: каб апаліўшыся,*
*Боль заглушыць, —*
*Трэба толькі да раны*
*Халоднай зямлі прылажыць.*
*Пэўна прыйдзецца мне*
*Пахавацца ў сырую зямлю,*
*Каб суцішыць мучэнні*
*І тую забыць, што люблю.*

У 1997 годзе гродзенскі музей Максіма Багдановіча выдае яшчэ адну паштоўку, на гэты раз з партрэтам Максіма Багдановіча. Наклад паштоўкі быў 400 асобнікаў.

Грамадска-культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер Анатоль Белы (1939–2011) заснаваў у 1990 годзе і адкрыў у 1999 годзе на ўласнай сядзібе ў горадзе Старыя Дарогі прыватны мастацкі музей. У музеі да сённяшніх дзён экспануецца каля 1700 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі.

У экспазіцыі прадстаўлены партрэты князёў, палкаводцаў, культурна-асветніцкіх дзеячаў Беларусі, батальныя карціны, краявіды, помнікі дойлідства, гарады і замкі Беларусі, бюсты і медалі, зробленыя ў гонар знакамітых дзеячаў Бацькаўшчыны. Ёсць там і бюсты Максіма Багдановіча і яго бацькі Адама Багдановіча. Анатоль Белы пры жыцці выдаў серыю паштовак, на якіх адлюстраваны вялікія беларусы XX стагоддзя. Адна з паштовак прысвечана Адаму і Максіму Багдановічам: на адным баку — бюсты Максіма і Адама Багдановічаў, на адваротным — верш Яўгена Гучка «Парыж — Старыя Дарогі» з радкамі: «Адам і Максім Багдановічы паўсталі таксама ў метале надоечы...».

Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча да яго 115-годдзя выпусціла каляровую паштоўку, прысвечаную паэту і Ракуцёўшчыне. Летам на ўскраіне Ракуцёўшчыны ў 1911 годзе гасцяваў Максім. «Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!» — так назваў паэт гэты час. Там ён напісаў два цыклы вершаў —«Старая Беларусь» і «Места» (усяго 17 вершаў) і дзве паэмы — «У вёсцы» і «Веранiка».

Музеефікацыя ракуцёўшчынскіх месцаў пачалася ў 1970-х гадах. А ў 1977 годзе ў вёсцы Ракуцёўшчына на ўспамін аб знаходжанні там паэта пастаўлены два помнікі-валуны: адзін — як вечная свечка памяці, на другім выбіты радкі з «Санета» Максіма Багдановіча. У 1981 годзе ў вёсцы каля помніка беларускімі літаратарамі пасаджаны мемарыяльны «Максімаў сад».

У 1994 годзе там быў створаны філіял музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына», які ўключае сядзібу Лычкоўскіх (домік арандатара, фальварковая хата, гаспадарчыя пабудовы), тэрыторыю вакол сядзібы, Максімаву крыніцу. Штогод тут адбываецца свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета», прысвечанае памяці Максіма Багдановіча.

Маладзечанскія краязнаўцы Міхась Казлоўскі і Барыс Брацук да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ў Маладзечне выпусцілі сваю чорна-белую паштоўку з партрэтам Максіма Багдановіча.

* * *

Вось такія паштоўкі ў гонар нашага выдатнага паэта выдаваліся на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Магчыма, штосьці аўтар артыкулу і прапусціў, пра штосьці не ведае, але ведаюць нашы чытачы. Калі ласка, дасылайце свае аповеды.

**Ілюстрацыі з уласнай калекцыі Сяргея Чыгрына**

# Успаміны: Мінск. Гады студэнцкія



**Арсень Ліс падчас вакацый у бацькоў, вёска Вётхава**

Арсень ЛІС

**Працяг. Пачатак у № 45**

**Надвячоркамі я часам блукаў па завакзаллю. Прымроілася, што магу тут, сярод гэтых пашарэлых ад часу дамкоў, натрапіць, дзе ў 1930-я гады жылі Алесь Салагуб з мамінай сястрой Марысяй.**

Паэт Алесь Салагуб, як з часам тое мной асэнсавалася, быў легендай у нашай хаце.

Колькі помню, маці нярэдка вярталася памяццю ў сваю маладосць. Рабілася тое часам услух. У тых згадках, як жывыя, у розных жыццёвых акалічнасцях паўставалі вобразы яе старэйшай сястры Марысі, побач з ейным мужам Алесем Салагубам, жылі згадкі пра іх не вядомы нам лёс.

Светла помніліся роднай Алесевы прыходы ў іх з сястрой бацькаў дом у Яневічах. Яго родная вёска Зарудзічы была недалёка, напрасткі — недзе з вярсту ад Яневіч. Найчасцей наведваўся Алесь у Яневічы, калі прыязджаў на канікулы з Вільні, дзе вучыўся ў беларускай гімназіі. Прыносіў з сабой нейкі новы настрой з шырокага свету. Разы два паказаўся з сябрамі, Васілём Сідаровічам, калегам па гімназіі, ды Янкам Лісам.

Пазней, пазнаёміўшыся з жыццёвым лёсам Алеся Салагуба, яго паэзіяй, дзённікамі, я ўявіў, якім інтэнсіўным духоўным жыццём ён жыў у тыя 1925–1926 гады, як гарэў грамадскім клопатам, арганізуючы разам з сябрамі ў вёсках сходы дзеля стварэння гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады на Смаргоншчыне. Аж да арышту яго дэфензівай.

Маці ведала на памяць некалькі вершаў Алеся Салагуба. Адкуль — не спытаўся ў свой час. У нас не было кнігі вершаў Алеся, якую яму ўдалося выдаць адно ў Мінску.

І яшчэ адна згадка пра Салагуба жыла ў маёй бацькавай хаце з дзяцінства. Маці час ад часу ўспамінала Алеся песняю на яго словы, да якіх сама падабрала мелодыю. Была, як цяпер разумею, спеўнаю ад прыроды. Шмат беларускіх народных песняў — янаўскіх, жніўных восеньскіх — была пераняўшы ад сваёй маці, мной ужо не засталай бабулі Агаты. У некалькіх выпадках трапна падбірала мелодыі да вершаў Канстанцыі Буйло, Якуба Коласа.

Некаторыя з іх, як раманс на словы К. Буйло «З лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін» і «Адна, ізноў адна, як колас той у полі, нязжаты ў час жніва нагостраным сярпом», у свой час я запісаў на магнітафон і адаслаў касету К. Буйло ў Маскву яшчэ за часамі жыцця паэтэсы.

У вершы ж Алеся Салагуба, які маці агучыла мелодыяй, меўся рамансавы змест і стыль:

*Помнім пару красавання,*
*Шэлест буйных каласоў, —*
*Ты падарыла каханне —*
*Першы дзявочасці сон.*
*Мне васілёк прышпіліла,*
*Поўны, як пацерак, слёз,*
*Помню ты вельмі любіла*
*Край летуценняў і кроз.*
*Рвалі ў садзе мядункі, —*
*Сэрцы жадалі зграэць,*
*Помніш, я краў пацалункі,*
*Ты ўсміхалася мне...*

Аднойчы маці згадала, як узнік той яго верш. У адзін з прыходаў Алеся ў Яневічы яны з Марысяй доўга гулялі між палёў. Якраз быў час красавання жыта. Наступны дзень ён даў Марысі лісток з запісаным на ім вершам.

Прайшоў нейкі час, Алесь, які напачатку 1927 года трапіў у Лукішскую турму, адседзеў прысуджанае яму і, выйшаўшы на волю, падаўся праз зялёную граніцу ў Мінск. Туды ўжо былі сышлі некаторыя яго знаёмцы і сябры, як, напрыклад, мастак Раман Семашкевіч, родам з Лебедзева. З Марысяй у іх была дамоўленасць, што за ім праз нейкі час падасца праз граніцу і яна. Аднае летняе ночы Марыся так і зрабіла. Бацька яе, Юстын, мой дзед, толькі праз тыдзень агледзеўся, што дачка сышла...

Жыццё ў Савецкай Беларусі, аб якім апошнія гады марыў, летуцеў Алесь, пачалося ў іх з Марысяй светла, перспектыўна. Алесь атрымаў вышэйшую адукацыю — скончыў БДУ, паступіў у аспірантуру пры Беларускай акадэміі навук. Выйшла яго першая паэтычная кніжка, названая «Лукішкі»: так запомнілася і ўвайшла рознымі рэаліямі ў яго паэзію гэта заходнебеларуская Бастылія.



**Студэнты 5-га курса філфака БДУ. Злева направа: Валодзя Сарока, Мікалай Базарэвіч, Мікола Паўловіч, Косця Петакоў, Арсень Ліс.**



**Беларускі паэт Алесь Салагуб з жонкай Марысяй (роднай цёткай Арсеня Ліса) 1929 г.**

У 1930 годзе родныя, сваякі Алеся і Марысі ў Заходняй Беларусі атрымалі шыкоўныя фотаздымкі шчаслівай сямейнай пары, зробленыя падчас Усебеларускай мастацкай выстаўкі 1930 года. А неўзабаве ўслед і здымак іх першынца: прыгожага таўстмаценькага галыша, які бачком поўз прама ў аб'ектыў фотаапарата. З 1933 года перапіска раптам абарвалася. Паўстала між роднымі двух частак Беларусі глухая сцяна. Польскія газеты пісалі пра дзіўныя рэчы, што сталі тварыцца ў краіне Саветаў. Верылі ім і не верылі. Ды і як было ў тое паверыць?

А ў сапраўднасці жыццё Алеся Салагуба і яго сям'і раптам пачало набываць драматычны характар і скончылася трагічна. У 1933 годзе яго арыштавалі органы АДПУ. Праходзіў па сфабрыкаваным у гэтым ведамстве сцэнары пад назвай «Беларускі нацыянальны цэнтр», скіраваны супраць беларускай інтэлігенцыі, перадусім выхадцаў з Заходняй Беларусі. Паводле незразумелай логікі арганізатараў рэпрэсіўнай акцыі, кіраўніцтва так званых «змоўшчыкаў», а імі былі вызначаныя нкусаўцамі былыя паслы ад заходніх беларусаў у польскі сойм С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын, Яз. Гаўрылік, І. Дварчанін, Ф. Валынец, кіраўнік Цэнтральнага сакратарыята БСР Грамады М. Бурсевіч, атрымалі па дзесяць год турмы, высылкі, а радавыя члены «БНЦ» — А. Салагуб і яго калега па Віленскай гімназіі родам з Глыбокага Я. Дрозд — вышэйшую меру пакарання. Падобна, што Салагубу і яго сябру, членам Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі, следчы АДПУ ніяк не мог давесці, што яны з'яўляюцца ворагамі савецкай улады. Казалі, што быццам Салагуб на тым няправым судзе над імі патрапіў запусціць чарнільным прыборам у твар свайму пілату.

> Алесь і яго сябра Янка Дрозд былі расстраляныя. Марысю як жонку ворага народа спачатку выслалі ў Смаленск, а пазней — на Поўнач. Як загінула — не вядома, як і тое, што сталася з іх сыночкам Лёнем

Алесь і яго сябра Янка Дрозд былі расстраляныя. Марысю як жонку ворага народа спачатку выслалі ў Смаленск, а пазней — на Поўнач. Як загінула — не вядома, як і тое, што сталася з іх сыночкам Лёнем.

Маці мая з гадамі змірылася з балючай для яе стратай. У 1939 годзе, калі адкрылася мяжа і ніхто з заходнебеларускай моладзі, што ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў сышлі ў Саветы, не аказаўся, маўчала: ніхто ж не аказаўся, усе загінулі... Але і пазней, асабліва ў мае студэнцкія гады, маці неадночы вярталася неспакойнай думкай да лёсу Марысінага сына, маўляў, па страце бацькоў мог быў дзе-небудзь аддадзены ў дзіцячы дом, вырас пад чужым прозвішчам між чужых людзей. Панукала мяне шукаць яго. А як было тое зрабіць? Тым больш, калі яшчэ і Алесь Салагуб не быў рэабілітаваны. Рэабілітацыя прыйшла значна пазней і насіла ў прынцыпе лжывы характар: утойваўся расстрэл.

Цяпер, больш чым праз шэсцьдзясят гадоў, пражытых у Мінску, думаю, што родавая памяць прысутнічала ў маім светаадчуванні ад пачатку свядомага жыцця, вывела на рэальнае асэнсаванне трагедыі беларускай інтэлігенцыі першай паловы XX стагоддзя і звязанай з гэтым цяжкасці станаўлення беларусаў як годнай еўрапейскай нацыі, дапамагла зразумець дзяржсістэму свайго часу, хаваную праз узнёсла-прыгожыя дэкларацыі і дэкарацыю яе таталітарысцкай сутнасці. Натуральна, у свае сямнаццаць пастулаты і механізмы сістэмы не мог асягнуць я адпаведна глыбока, але фальш у меншых і большых практычных яе праявах ды і ў нечым агульным існым адчуў. Па-юнацку востра, максімалісцкі перажыў. Балюча...

Восенню 1951-га, тупаючы ў невялічкім садку па вуліцы Талстога (да гэтага часу ўжо быў перабраўшыся на іншую найманую кватэру), складаў вершык у іншай, так бы мовіць, танальнасці, чым пісалася мне ў нашым Смаргонскім літгуртку.

*Мне ў вуснах песні не ўтрымаць,*
*Яна на волю птушкай рвецца,*
*Сябрам жадае расказаць,*
*Як маё сэрца горна б'ецца*
*І як, стаміўшыся, яно*
*Сумуе ў нейкай цяжкай скрусе*
*Аб днях, што згінулі даўно, —*
*Аб лёсе роднай Беларусі.*
*Аб дзікім церне тых шляхоў,*
*Што ногі ранілі балюча,*
*Радзіма, усіх тваіх сыноў,*
*Што і мяне сягоння мучыць.*

Пэўна, было залішне самаўпэўненым хоць мысленна далучаць сябе да тых, хто прайшлі шляхі беларускага Адраджэння 10–20-х гадоў XX стагоддзя. Але трагедыю іх, як і драматычны лёс народа свайго, адчуў усім сэрцам. Пазней ужо ўдалося асэнсаваць прычыны, вынікі, абставіны той агульнанароднай трагедыі, яе ўплыў на лёс беларусаў як нацыі. Але да гэтага трэба было яшчэ дайсці. А пакуль што трэба было пазнаёміцца з горадам, у які прывёў лёс, пачуць новае, неспазнанае ў студэнцкіх аўдыторыях універсітэта.

Перабраўшыся жыць на вуліцу Льва Талстога з маім нядаўнім знаёмцам Валодзем Сарокам, мы займелі самастойны жыллёвы куток у драўляным дамку з агародам, вішняком, невялікім садком на некалькі яблынь.

Вакзал быў побач. Раніцай стала зручна дабірацца на лекцыі. За хвілін пятнаццаць праскочыш было да канца вуліцу Талстога, а там праз віядук над чыгункай — галоўны ўніверсітэцкі корпус, рукой дастаць.

Пасля лекцыяў, звычайна на скорую руку, паабедаеш у студэнцкай сталоўцы, што побач са стадыёнам ды гасцініцай, і — у бібліятэку, яна была тут жа, у галоўным корпусе. Прасторная, з вялікімі партрэтамі пісьменнікаў на сценах. Ветлівая, інтэлігентная, пажылая бібліятэкарка заўсёды ўважліва ставілася і да нашага брата-першакурсніка. Утульны асветны куток.

Праўда, стала я пачаў заглядаць у чытальную залу ўніверсітэцкай бібліятэкі пазней, калі трэба было чытаць і чытаць творы зарубежных пісьменнікаў паводле курсу замежнай літаратуры, спіс якой здаваўся мне неадольны.

**Фота з уласнага архіва Арсеня Ліса**

**Працяг будзе**




# Падтрымайма беларуска-англійскі слоўнік!

Алена ЯЛАВЕНКА

**Маладыя мамы рыхтуюць да друку беларуска-англійскі слоўнік у малюнках «Наш дом / Our Home». Існуе дамоўленасць аб выданні кнігі ўвесну 2016 года з выдавецтвам «Галіяфы».**

Аўтары праекта мяркуюць, што слоўнік можа зацікавіць бацькоў, якія імкнуцца даць сваім дзецям добрую моўную адукацыю; моладзь і дарослых, якія самі зацікаўленыя ў вывучэнні беларускай і/або англійскай мовы; асобаў, якія цікавяцца краўдфандынгам як новым кірункам фінансавання праектаў і ініцыятыў.

На платформе сацыяльных праектаў Talaka.by стартавала кампанія збору сродкаў для выдання падрабязнага беларуска-англійскага слоўніка ў малюнках «Наш дом / Our Home». Мэта кампаніі — сабраць для выдання кнігі праз «Талакошт» 43 000 000 бел. руб., больш за трацiну якіх ужо паабяцана будучымі спонсарамі.

«Наш дом / Our Home» — гэта:

- першы беларуска-англійскі слоўнік у малюнках для дзяцей і дарослых;
- каля 50 старонак каляровых ілюстрацый на шчыльнай крэйдаванай паперы;
- каля 1000 будзённых словаў і размоўных фразаў на кожнай мове. Для зручнасці пошуку ў слоўніку будуць змешчаныя беларускі і англійскі алфавітныя спісы лексічных адзінак з нумарамі старонак;
- каля 2000 спрошчаных транскрыпцый, якія падкажуць, як вымаўляць тое ці іншае слова;
- больш за 20 тэматычных раздзелаў: «Часткі жылога будынка», «У вітальні», «У гасцёўні», «У спальні», «У дзіцячым пакоі», «На кухні», «За сталом», «У каморы», «Хатняя гаспадарка», «Рамонт», «Хатнія гадаванцы» і інш.;
- нясумнае чытво для тых, хто хоча лёгка запомніць беларускія і/або англійскія «хатнія» словы і выразы: назвы прадметаў побыту, гаспадарчых прылад і дробязей, разнастайных хатніх спраў і звыклых дзеянняў... Навука праз забаву для школьнікаў і не толькі;
- адметны падарунак для беларускага ці замежнага сябра.

Укладальніцы слоўніка — прафесійныя перакладчыцы, выпускніцы перакладчыцкага факультэта МДЛУ і філалагічнага факультэта БДУ. Ёсць дамоўленасць аб выданні кнігі ўвесну 2016 года з выдавецтвам «Галіяфы».

Стаць адным з «жыхароў»-фундатараў «Нашага дома» можна да 20 снежня 2015 года.

# Іронія шабаноўскага існавання

Алег ГРУШЭЦКІ

**Пасля прэм'еры на «Лістападзе» паказ нашумелага фільма «ГараШ» беларускага сцэнарыста і рэжысёра Андрэя Курэйчыка адбыўся ў штаб-кватэры Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы і Еўрапарламента ў Страсбургу (Францыя), у праграме IV Сусветнага дэмакратычнага форума. Пра тое, як да гісторыі шабаноўскіх аўтраслесараў паставіўся еўрапейскі глядач і што такое наогул праект «ГараШ», чытачам НЧ распавядае сам Андрэй Курэйчык.**

— «ГараШ» — гэта незалежны нацыянальны беларускі кінапраект. Зараз растлумачу, што я маю на ўвазе. Незалежны — азначае тое, што мы прынцыпова не прасілі грошай ні ў дзяржавы, ні ў камерцыйных прадзюсараў. Мы не залежым ні ад чыёй волі. У нас няма начальнікаў, якія распавядаюць нам, як правільна здымаць кіно. У нас ёсць толькі сябры і калегі, якія бескарысліва нам дапамагалі, і мы ім вельмі ўдзячныя. Другое — нацыянальны. Чамусьці за гэтым словам у нас прынята бачыць штосьці велізарнае, манументальнае, гігантаманскае. Але ніхто не ўдумваўся ў сэнс. Хоць нацыянальнае — гэта тое, што робіцца беларусамі, пра беларусаў і ў інтарэсах беларусаў. Гэта ўнёсак у нацыянальную культуру. Стварэнне ўласнага культурнага пласта. «ГараШ» — гэта на сто адсоткаў аўтэнтычны беларускі прадукт. І, нарэшце, слова «кінапраект». Сапраўды, пачынаючы «ГараШ» з групай энтузіястаў, без грошай, мы не ведалі, што за фільм атрымаецца ў выніку. Сіткам пертварыўся спачатку ў пілот сур'ёзнага серыяла, потым сышоў у бок трагікамедыі. Гэта было займальнае вандраванне. Сапраўдны жывы творчы працэс стварэння актуальнага беларускага кіно.




Андрэй Курэйчык і Алег Грушэцкі пасля прэм'еры фільму на кінафестывалі «Лістапад»

***— Вы запрасілі на галоўныя ролі не прафесійных артыстаў, а рок-музыкаў. Што гэта дало карціне?***

— Шабаны, дзе адбываецца дзеянне «ГараШа», — гэта мінскі мікрараён з унікальнай энергетыкай. Адмысловая Зона, як у «Сталкеру» Стругацкіх. Патрэбныя адмысловыя твары. Не зацёртыя ў расійскіх серыялах, не фальшывыя. Выбар акцёраў — гэта галоўнае мастацкае рашэнне рэжысёра кіно. Кулінковіч і Навумаў — гэта і ёсць «ГараШ». Гэта андэграўнд, постсавок, пераламаныя лёсы і горкая іронія шабаноўскага існавання.

***— Прэм'ера адбылася на «Лістападзе», вы гэтага чакалі?***

— Сумленна кажучы, робячы кіно, мы не верылі, што яно будзе паказана на вялікім экране. Гэта сутарэннае кіно. Не для буржуазнага пракату і буржуазнай аўдыторыі. Не для эстэтаў, якія любяць вычварны арт-хаўс. «ГараШ», вядома, працэй, больш вуглаваты, грубы. Гэты фільм — як рукі любога аўтамеханіка: трохі ў мазуце, у масле, з мазалямі і ранкамі. Затое сумленны і без прэтэнзій. Мы здзівіліся, калі яго ўзялі на «Лістапад». Тым больш, былі ў шоку, калі за тыдзень усе квіткі былі раскупленыя, а кінатэатры прапанавалі дадатковыя сеансы. Беларускія гледачы, а не журы ці крытыкі, зрабілі фільм падзеяй фестывалю.

***— Як да гісторыі шабаноўскіх аўтаслесараў паставіўся еўрапейскі глядач?***

— Гэта факт: «ГараШ» стаў першым іграввым мастацкім фільмам, паказаным у Савеце Еўропы. Вялікі гонар, што гэта наш, беларускі фільм. Аўдыторыя была ўнікальная: еўрадэпутаты, палітыкі, журналісты, лідары грамадзянскай супольнасці, палітычныя школы з больш за 50 краін, якія сабраліся ў Савеце Еўропы на Сусветны дэмакратычны форум. Нягледзячы на спецыфіку кіно, гледачы шмат смяяліся, некалькі разоў апладзіравалі. Потым была прадметная дыскусія пра постсавецкую ментальнасць. Апынулася, што ў іранічнай форме «ГараШ» стаўся вострым мастацкім даследаваннем грамадскага і чалавечага быцця.

# «Галоўныя пытанні» ў снежні

Юлія ГАЛІНОЎСКАЯ

**Лятучы ўніверсітэт распачаў універсітэцкі год новай серыяй публічных лекцый пад агульнай назвай «Галоўнае пытанне».**

Штотыдзень па серадах Лятучы ўніверсітэт ладзіць сустрэчы з беларускімі інтэлектуаламі, навукоўцамі, культурнымі дзеячамі, каб разам з імі разважаць над самымі рознымі гуманітарнымі, сацыяльнымі і культурнымі праблемамі. Свае «галоўныя пытанні» ўжо разгортвалі перад слухачамі Уладзімір Мацкевіч, Алесь Смалянчук, Ігар Бабкоў, Таццяна Вадалажская, Алесь Разанаў, Вячаслаў Бабровіч, Аксана Шэлест, Алег Дзярновіч, Міхал Анемпадыстаў.

У снежні вас яшчэ чакаюць адкрытыя лекцыі:

**9 снежня.** Святлана Карасёва: «Рэлігійнасць у Беларусі: ад канцэпцый да дадзеных».

**16 снежня.** Ірына Махоўская: «Біяграфія: паміж жыццём і расказам пра жыццё. Як паразумецца з мінулым?» (тэма папярэдняя, магчымы ўдакладненні).

Лекцыі адбываюцца па серадах, пачатак а 18.30.

Хоць лекцыі і адкрытыя, але патрабуюць папярэдняй рэгістрацыі. Гэта можна зрабіць, запоўніўшы ЗАЯЎКУ альбо напісаўшы ліст нашаму каардынатару. Больш падрабязную інфармацыю пра лекцыі — расклад, тэмы, умовы ўдзелу — шукайце на сайце: www.fly-uni.org.

Падпісацца на рассылку анонсаў, задаць пытанні, удакладніць дэталі можна таксама ў каардынатара Лятучага ўніверсітэта: flyuniby@gmail.com; +375297422040 (Юлія). У тэме ліста просьба пазначаць назву серыі «Галоўнае пытанне».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.by
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1534

Падпісана да друку 4. 12.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.